УДК 811.161.3’374.3
ББК 81.2Беи-4
Г 51

Пад рэдакцыяй А. М. Булыкі
Памочнік рэдактара З. К. Турцэвіч

Складальнікі:

Т. І. Блізнюк (отматати — отнетье),
А. М. Булыка (отвержение І — отдыхнути, отниманье — отпадывати, отправа — отпрысяженье, отчааватися — охроняти),
Р. С. Гамзовіч (отсыпъ — отцовъ),
А. П. Груца (ошарпаный — палитися),
І. І. Крамко (осударский — отверечися, отрести — отсылывати),
В. У. Мяснікова (отпалый — отпоясати, отпудити — отреснутися),
Л. І. Рабаданава (отегатисе — отмалеванье),
З. К. Турцэвіч (палица — паписта),
А. І. Яновіч (охроняючий — ошарпанецъ)

Рэцэнзенты:

канд. філал. навук В. І. Іўчанкаў,
канд. філал. навук Т. М. Трухан

**Гістарычны** слоўнік беларускай мовы. Вып. 23.
Г51 Осударский — Паписта / Склад. А. М. Булыка і інш.; Пад рэд. А. М. Булыкі. — Мн.: Бел. навука, 2003. — 448 с.
ISBN 985-08-0559-5.

У 23-м выпуску Гістарычнага слоўніка беларускай мовы, які ўключае каля 2000 слоў на літары О — П, як і ў папярэдніх, даецца тлумачэнне і граматычная характарыстыка лексікі беларускай пісьмовай мовы XIV — XVIII стст.

Разлічаны на моваведаў, гісторыкаў, этнографаў і ўсіх, хто займаецца вывучэннем гістарычнага мінулага беларускага народа.

**УДК 811.161.3’374.3**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 985-08-0559-5**

# О

**Осударский** *гл.* государский

**Осударъ** *гл.* государъ

**Осудивый** *дзеепрым. ад* осудити *ў* 1 *знач.* томꙋ бо порꙋченъ есть ѡсꙋдивыѕ его соборъ (Унія, 22б—23).

**Осудити, осудить** *дзеясл.* **1.** *Прызнаць вінаватым і вынесці прыгавор.* его тамъ Полочане осудятъ по своему праву (РЛА, 131, 1407); ѡсоудили его камениемъ побити (Чэцця, 201б); жидове мели брать радоу напретив гсоу іссоу и мели его ѡсоудить невинного на смрть (Пс. XVI, 95); осудꙗть его на сьмерть (Цяп., 58); приходит избавитель не зновꙋ соуд принꙗти, але которіи его ѡсꙋдили ѡсꙋдити (Каз. Кір., 4); ѡсꙋдивши на смертъ кажет емꙋ на шибеницꙋ лѣзти (Зб. 261, 243б); того Матиса Каниковского копа вся на горло осудила (АВК, XVIII, 272, 1625); такъ глꙋпи снове Ізраильскіи, ижь познать а ѡсудить правды не могꙋчи ѡсꙋдили есте дочкꙋ Ізраильскꙋю (Хран., 370); цар его в заточене ѡсꙋдил (Зб. 82, 195б).

**2.** *Правесці судовае разбіральніцтва.* если же не могꙋть всих сꙋдов ѡсꙋдити того днꙗ тогды хочемь тог ... абы дрꙋгого днꙗ сꙋдъ скончанъ (Вісл., 13); зовучи пани Стужинскую, абы шла на копу, абы кого отъ себе послала, жебыхмо сполъне тую испашъ осудили (АВК, XVIII, 141, 1597).

**3.** *Выказаць неадабрэнне; прызнаць заганным.* если быхъ ꙗ прыехал, а того бы сꙗ в насъ доведали, што есми збит ѡт ѡдного посполитого рыцэра ис Корновали, ѡни бы мꙗ ѡсудили што есми не годенъ носити ѡружꙗ (Трыст., 49); Лѡтъ ... же нѣкого не осꙋдилъ, нѣ з кого сꙗ не насмꙗлъ, огнꙗ оного ... оушол (Каліст, I, 7б); ты цесарꙋ и вы вси ѡсꙋдите што ꙗ маю чынит (Зб. 752, 464б); нехай видитъ гсдь а ѡсꙋдить, же есте вонность нашꙋ оучинили смердꙗчꙋю (Хран., 83б).

**Осудитися** *дзеясл. зв.* **1.** *Самому сабе вынесці прыгавор.* ѡ бѣдныи члвче. оуспомꙗнисꙗ. заноуж оумерети имаешь. и

ѡсоудитисѧ (Чэцця, 361); што сторона приводить права обцые цесарские, тогъды сама се сторона осудила словы своими (АВК, XX, 67, 1597); не длѧ того греховъ споведатисе маемъ жебы ихъ богъ ведати не мел але длѧ того абыхмо сѧ сами ѡсѹдили и злостеѕ своих завъстыдили (Унія, 45); До невѣрныхъ и одного слова мовити не бѹдетъ, кгды жъ тыи всѣ сполечне сами сѧ осѹдѧтъ (Каліст, І, 24б); хотꙗчи сꙗ за покутѹ на вѣчное выгнане ѹтеканьем з панъства еретицкого ѡсудит. Пустилсꙗ моремъ до проконесу (Пралог, 579).

**2.** *Быць асуджаным кімсьці.* огнем гсдним ѡсѹдитсѧ всѧ землѧ (Каз. Кір., 12); о тых то слоушне ли написал, ижъ бы ихъ было двѣ тысѧчи, до синѡдѹ однои одрѡбины права не мѣли нехай сѧ южъ осоудит (Апакр., 75б).

**3.** *Выказаць неадабрэнне сабе самому.* ѡни бы мѧ ѡсудили што есми не годенъ носити ѡружѧ, бо в Корновали сут навбожшые рыцэры. Длѧ того его волю сам покинути а сам сѧ ѡсудити, нижли бы мѧ ѡсудили (Трыст., 49).

**Осудить** *гл.* осудити

**Осудъ** *наз. Асуджэнне; неадабрэнне.* како важныи ѡсоуд живота его (Пак. Хр., 23).

**Осужати, осужяти** *дзеясл.* **1.** *Прысуджваць, выносіць прыгавор.* аже король, заплативъ пятьсотъ гривенъ тымъ панямъ и ма вѣчисто держять, а мы те ему осужяемъ (АЮЗР, І, 5, 1404); осѹжаемь ѳалко віноватого на тѹ ранѹ (Вісл., 27); Всѧкии ѹбиица да будетѕ каранъ по сведецству неколикомѕ сведетелемѕ единымѕ никого не осужаете (Скар. ЛК, 72б); хто его ѡсужает смерти годного, сам себе ѡсужает напотом (Алекс., 15б); хотꙗж ѡдинъ тꙗжеѕ грешит нижъ дрѹгиѕ и длꙗ того же ѡдин сѹдѹ, дрѹгиѕ рады, третиѕ пекла годнымъ господ быт ѡсѹжает (Зб. 255, 86).

**2.** *Неадобрываць; прызнаваць заганным.* человѣкъ же справедливыи осужает несправедливыхъ (Скар. ПБ, 7б); о них не мають лихо говорити, ани осужати (Будны, 67—67б); ѡсѹжаю то, иж ѡбычаи ваши болшеѕ кѹ шалености ниж кѹ мѹдрости склонꙗют (Бельск., 181); Понехаймо прето братіе инших осѹжати (Каліст, І, 7); Ангелскаꙗ чистост твоꙗ ѡсужает плюгавыѕ животъ моѕ (Пралог, 571). *Параўн.* осуждати *ў 2 знач.*

**3.** *Тое, што і* отсужати. тое именіе мы имъ осѹжаемь а прілѹчаемъ кролеви нашемѹ (Вісл., 12).

**Осужатися** *дзеясл. зв. Неадобрываць сябе, свае ўчынкі.* ꙗкъ небачны и безрозѹмны осѹжаютѕсѧ, же сѧ не вернѹли дати

славꙋ бг҃ꙋ (Каліст, II, 174б); длѧ мнѡзства грѣхѡвъ надѣю тратит вшелѧко намъ заказано, але бозскꙋю доброть познавати, и в$^{s}$ грѣхахъ сѧ нашихъ ѡсꙋжати (Варл., 95).

**Осужаючий** *дзеепрым. ад* осужати *ў 2 знач.* старатисѧ потреба, абы ѡнаѧ [покута] пристойным способом была чинена, то ест, з$^{s}$ срдца брыдѧчогосѧ грѣхомъ, и ѡный ненавидѧчого, и ѡсꙋжаючого, и слезы выпꙋскаючого (Варл., 97б—98).

**Осуждати** *дзеясл.* **1.** *Рабіць заключэнне, выснову.* а протоже ѡсꙋждаем. иже голова мала велми. се ест лихо велично (Арыст., 184).

**2.** *Тое, што і* осужати *ў 2 знач.* мовитъ Апслъ, Бг҃ъ ѡправдаетъ; а хтож$^{s}$ ихъ маетъ ѡсꙋждати (Карп., 27б); Ѡклеветꙋю: Ненавистна творю, ѡглаголꙋю, ѡсꙋждаю: ѕлословꙋю (Бяр., 196).

**Осуждение** *гл.* осужденье

**Осужденникъ** *наз. Асуджаны, асуджэнец.* И яко царъ призываетъ приятелей и други свои на обѣдъ свой ... а осужденницы въ темницы затворени въ смутку суть (Пыт., 63).

**Осужденый, осужденный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* осудити *ў 1 знач.* самъ есми ѡсоужденыи. как тѧ крстити имѣю гси (Чэцця, 12б); повышаи справедливых и достоиных да не бѫдешь ѡсꙋжденъ таковъ (Арыст., 239); тогды бы слꙋхаючіе были вымовни, а они осꙋждени (Апакр., 59); Что чинити належитъ, коли невѣста маючи дѣтѧ въ чревѣ бꙋдетъ осꙋжденнаѧ на смерть (Зб. вып., 11б).

**2.** *У знач. наз. Той, каго засудзілі.* елеѡпомазаніе ... осꙋжденнымъ на смрть не треба давати (Зб. вып., 49б).

**Осужденье, осуждение** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* осудити *ў 1 знач.* ꙋтративши такие дари бозские, в$^{s}$ ѡсꙋждение и в неволю диꙗволскꙋю ꙋпали (Бельск., 5); Геена: метаѳ: Ѡсꙋжденіе, потꙋпене, мꙋка, або огень пекелный (Бяр., 263); не зведеш мене, мѣ$^{s}$ собѣ свое сребро на ѡсужение (Зб. 752, 485б).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* осудити *ў 3 знач.* птици небесные донесꙋть гласъ твои, и имеющии крилѣ скажуть осуждение (Скар. ЕК, 16); Зазрѣніе: Подозрѣнье, непщеваніе, мнѣманіе, потꙋплѣнье, достоинство, окаеванье, осꙋжденье (Бяр., 48).

**Осужение** *гл.* осуженье

**Осуженый, осуженный, осужоный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* осудити *ў 1 знач.* хто усилꙋеть дѣвъкꙋ ... имеють быти ѡсꙋжены (Вісл., 25б); мужобоица маеть быти ѡ тое забитье ѡсужон (Ст. 1529—Ф, 91); Хс҃ рече, не судите да не осужены будете (Будны, 98б); въ справе ѡсужонои черезъ сꙋдьи головные естли бы сѧ

досытъ не стало (Трыб., 11—11б); чому се ѡнъ сам и нихто инъшы[s] спротивлѧт не мает, под троѧкими зарѹками такъ великими ѧко речъ ѡсѹжонаѧ выносит (ККСС, 268, 1618); если оувѣришъ, и ѡкрстишъсѧ, спсенъ бѹдеш[s], а если не оувѣришъ, ѡсѹженным бѹдешъ (Варл., 85б); то[s] без всѧкого сѹдѹ ѡсѹжены[s] ест (Зб. 82, 152б); панъ староста ... на спротивного заруки водле важности речи осужоное наказу у насъ враду потребовалъ (АВК, I, 133, 1677).

**2.** *Ад* осудити *ў* 3 *знач.* то бо есть блѹд и се ест грѣхъ ѡсѹженыи (Зб. 262, 25); ѡтповѣдала. ижъ ѡсѹжена была длѧ встыду сповѣди (Пралог, 533); и ты Алеѯандре не подносисѧ ѹ пыхѹ, абыс и ты з[s] нами не былъ ѡсѹжен (Алекс. 1697, 84б).

**3.** *Палічаны; атэставаны.* папѣжъ евгеній д҃ ... за оупорного еретика есть осѹжоный ѡт собѡрѹ базилийского (Апакр., 64б); Фарисей добрыи оучинки полнивши, длѧ пыхы за злого ѡсѹженъ зосталъ (Каліст, I, 7б).

**4.** *Пакінуты (на волю лёсу).* Мнѡгіи зась розѹмѣли мѣли себе вѣрити, але же неправо вѣрили, а нѣ ѧкъ в[s] писмѣ естъ речоно: вымыслѡвъ рачей своих а не бж҃ого закона наслѣдовцами быти осѹжены сѹть: зачимъ и погинѹли (Каліст, I, 169).

**5.** *Адсуджаны.* мы оуставлѧемь на такыхъ иж имають всег именіѧ своего ѡсѹжені быти (Вісл., 24б); если бы небожчикъ Шумскій ... мѣлъ быть осужонымъ почтивости (АВК, II, 244, 1580); кондратк8с еще рекъ емѹ если царю на то не вѣришъ нехаи бѹдѹ ѡсѹжен чти и вѣри (Алекс. 1697, 44).

**6.** *У знач. наз. Той, каму вынесены прысуд.* ѧкобы реклъ, на мѣсте ѡсуженыхъ, или нечстивыхъ (Будны, 132); ѧкое моленіе чинити мает тои. которій ѡкаѧнных и ѡсѹженых своею силою ѡт ѡсѹженѧ высвободил (Каз. Кір., 194); смерть над людми панoвала, и всѣхъ за выроком бозскимъ ѡсѹженныхъ, до темности заганѧла (Варл., 53).

**Осуженье, осужение** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* осудити *ў* 1 *знач.* на болшю крѣпость нашего осуженія помочное взяли есмы у короля (АЮЗР, I, 5, 1404); знаимо какъ его прінѧти достоино. на спсніе дш҃ам нашимъ. а не на ѡсоуженье погибели (Чэцця, 174); домніманьемъ долгих молитвъ, тые приимуть лишшое осуженье (Цяп., 62); скорое осѹженіе Ирода поткало длѧ незбожного дѣтоѹбійства (Каліст, II, 267б); абысте ѡсѹженѧ и мѹки оубѣгши, живота вѣкѹистого ѡказалисѧ дѣдичами (Варл., 252б); розмышлѧне ка҃ ѡ ѡсѹжению на смерть гсда нашего (Зб. 255, 274б); дѹша без[s] бг҃а млсти и ласки егѡ

оумерла есть; а не живе одно на осȣженье и смерть вѣчнȣю (Хран., 9).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* осудити *ў* 3 *знач.* радуисѧ ѡбрадованнаꙗ. не соромѣисѧ ѡсоуженьꙗ евъжина (Чэцця, 161); не выдаваетсѧ скорое на злыхъ людеи осужение (Скар. ЕК, 13); нехай мѣркоуют, где онаѧ превротне ничого не чинѧчаѧ, не надымаючаѧсѧ, чести и славы своее знищеньем, з$^{s}$ осȣженьем, з бесчестьем, ... всемȣ вѣрȣючаѧ, все оуповаючаѧ мл҃ть, где лѣпшее мѣсце маетъ (Апакр., 184—184б); ѡнъ шемранье, ѡсȣжене, зазрост, недбалость и што колвекъ щырост серца мажет и тривожить (Зб. 107, 115).

**3.** *Вызначанасць, наканаванне.* народ вес ... не вѣдають закона. а в томъ большее ѡсужение и погибель (Чэцця, 216); весь Адамовъ в$^{s}$ грѣхъ впалый родъ, таемное оное осȣжене в$^{s}$ собѣ мает$^{s}$ (Мак., 50—51).

**4.** *Судовае разбіральніцтва.* врꙗдъ земски$^{s}$ на ѡсуженье и на сконьчене таковȣю справу на сȣдъ подъкоморого, ѡтослати маеть (Ст. 1588, 368); былемъ ... высажоный на окопованье и осуженье стравы овса и гречихи (АВК, XVIII, 141, 1597).

**Осужоный** *гл.* осуженый

**Осужяти** *гл.* осужати

**Осумованый** *дзеепрым. ад* осумовати. водлугъ списанья книгъ земскихъ, вся земля осумована есть (АЗР, II, 188, 1528).

**Осумовати** *дзеясл. Вызначыць сумарны кошт.* тыи дельчии мають то ѡсȣмовати (КСД, 547, 1507); што ѡна въ домъ принесла, идучи за мужа своего Петька, ѡсумовали есмо (Там жа, 394, 1516); котловъ малыхъ пять, то есмо осумовали по пяти грошей (АЗР, III, 49, 1553); с тымъ вознымъ люди стороние копа всꙗ мают ѡнȣю шкодȣ ѡсȣмовати на чомъ ѡны$^{s}$ шкодникъ самотреть присꙗгнеть (Ст. 1588, 532).

**Осуненый** *дзеепрым. Які мае выгляд сіняка ці садранай скуры.* на сыну его Ивану на нозе левой, нижей колена осунено, а на руце правой надъ запястью такъже осунено до криви (АВК, XXII, 241, 1565); на локтяхъ раны осуненые крывавые (АВК, XVIII, 92, 1592).

**Осутый** *дзеепрым. Абтыканы, пазначаны.* Чрево твое ꙗко стогъ пшеници, осутыи цвѣтиемъ (Скар. ПП, 9); земли ихъ есть копцы осутыи, объораныи и знаки граничными означоныи (АВК, XXIV, 158, 1554).

**Осушитися** *гл.* осушытися

**Осушыти** *дзеясл. Высушыць; зрабіць нежыццяздольным.* кгды милосердиꙗ жадног не мѣли над млоденцом гсдь бгъ ѡсушыл рꙋки катов (Зб. 752, 339).

**Осушытися, осушитися** *дзеясл. зв. Абсушыцца.* ѡто маеш ѡсꙋшысꙗ, ѡто маеш дактили посилсꙗ (Зб. 81, 236); ѡто маешъ ѡгонъ ѡсушисѧ, ѡто маешъ фиги покреписѧ (Зб. 82, 396б).

**Осхлый** *дзеепрым. Высахлы, перасохлы.* отъ тыхъ зопсованыхъ а уже правѣ осхлыхъ криницъ уведши, до жроделъ вѣры збавенноѣ презъ пастыровъ властныхъ поволывать упреймость вашу рачитъ (АЗР, IV, 107, 1595).

**Осхнути** *дзеясл. Тое, што і* осохнути. Ное ... выпустилˢ врана онˢ же вылетевъ не навратисѧ дондеже осхнѣ вода на земли (Скар. КБ, 19); осхли воды на земли (Біблія, 25); Мсца втораго дватцеть семогѡ днѧ ѡсхла землѧ (Хран., 16).

**Осчажати** *дзеясл. Ашчаджаць, берагчы.* напал на тꙋрки и забивал их, не ѡсчажаючи, которог меч в жадноˢ зброи ани в потужности конскоˢ не задержил (Бельск., 389б).

**Осчепъ** *гл.* ощепъ

**Осчупати** *гл.* ощупати

**Осщепъ** *гл.* ощепъ

**Осыпаный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* осыпати *ў* 1 *знач.* если когѡ вкинет вˢ море, частокроть бываетъ, ижъ занꙋреный и занесеный посродъ морѧ, водами осыпанъ и невидимˢ бываетъ (Мак., 330). // *перан.* законник которыˢ грехами повшехными ѡсыпаныˢ прикладꙋ дрꙋгим доброг не даст (Зб. 261, 84б); ꙋваж чему господ наш. бꙋдꙋчы так многих болестиˢ ѡтвсюл ѡсыпаныˢ на самое прагнене лꙗментует (Зб. 255, 294б—295).

**2.** *Пакрыты язвамі (пра скуру).* коли на ней войзрѣлъ ааронъ, и ѡбачилъ трꙋдом ѡсыпанꙋю, реклъ до мойсеꙗ (Біблія, 188).

**3.** *Ад* осыпати *ў* 2 *знач.* земли ... вси достаточне ограничены и копцами осыпаны (АВК, XIII, 282, 1560); што есть отъ волокъ короля его милости ограничоно и копцами осыпано (АВК, II, 132, 1568).

**4.** *Які абсыпаўся, абваліўся.* реестръ ... на реставрацыю валу, коло места осыпаного и опалого (ИЮМ, VI, 195, 1689).

**Осыпанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* осыпати *ў* 2 *знач.* за осыпанье загънету валоваго двомъ человекомъ за дни три дали золот. два (ИЮМ, I, 104, 1680).

**Осыпати** *дзеясл.* **1.** *Абсыпаць.* осыпте мѧ ꙗбълоками (Скар. ПП, 4б); подоприте мѧ кꙋбкы и ѡсыпльте мѧ ꙗблоками (Зб. 262, 83).

**2.** *Насыпаць; падсыпаць.* по тыхъ границахъ ... копцы осыпали и ограничили (АВК, XVII, 350, 1541); керно*с* ѡныꙅ коли ꙋме*р* ѡсыпали гробъ по*д* лѣсо*м* кꙋ горѣ вынеслыꙅ (Стрыйк., 51б); не умолитъ огородникъ пана своего, абы не сѣщи неплодное древо, доколь осыплетъ его гноемъ (АЗР, IV, 223, 1600).

**Осыпатися** *дзеясл. зв. Абсыпацца.* зачали на початокъ лавину ... што два звены осыпалисе были, заплатили Ивану Лопану валмистру изъ сыномъ по золотому на день (ИЮМ, VI, 62, 1689).

**Осыпывати** *дзеясл. Насыпаць; абсыпаць.* намесникъ Новодворский при насъ на тотъ часъ былъ и копцы осыпывалъ (АВК, XVII, 350, 1541).

**Осыроценье** *гл.* осироченье

**Осыхати** *дзеясл. Абсыхаць, падсыхаць.* коли ꙋже землꙗ ѡсыхала, росказа*л* гдь бгъ ноеви бе*с*печне выстꙋпи*т* з кораблꙗ (Стрыйк., 414б).

**Ось, вось** *наз. Вось.* были суть таковыи кола, ꙗковы оу возе бываютъ, и оси ихъ и спици, и ободы (Скар. ТЦ, 140); У той стодолѣ на току восажокъ безъ колъ и безъ оси (АВК, VIII, 418, 1586); за подложене осей до полковыхъ делъ и за направу ложей ... чинитъ зол. двадцать семъ (ИЮМ, I, 195, 1681); теды на тот часъ воси поломалися, заплатили колеснику Мелешку за оси и за роботу золотый (ИЮМ, VII, 81, 1690); За направоване деревомъ колясы ... до ней робилъ дышель новый, насады обадва ... ось одну (ИЮМ, IX, 51, 1692).

**Осьветчати** *гл.* осведчати

**Осьлица** *гл.* ослица

**Осьмакъ** *гл.* осмакъ

**Осьмеро** *гл.* осмеро

**Осьминадцатый** *гл.* осминадцатый

**Осьмисотъ** *гл.* осмисотъ

**Осьмнадцать** *гл.* осмнадцать

**Осьмуха** *наз. Васьмушка.* зъ даниною зъ волости Кричевскоѣ по пятьдесятъ осьмухъ хлѣба и осмдесятъ фунтовъ воску (АЗР, V, 120, 1669).

**Осьмъ** *гл.* осмъ

**Осьмый** *гл.* осмый

**Осьмь** *гл.* осмъ

**Осьяти** *гл.* осияти

**Осягати, осегати** *дзеясл. Набываць.* дети дошедъшы того спадъкꙋ ... повинъни з него долъги ѡ*т*цовъские або матъчины платити бо хто ѡсегаеть добра повиненъ носити и беремена (Ст. 1588, 324); такˢже на немъ [соборе] ꙗко и на иншихъ всѣ бискꙋпы свои мѣсца осѧгали (Апакр., 146б); зꙋполности вѣры не доше*д*ши, не ѡсѧгаютˢ еи (Мак., 278); Стѧжаю, или стѧжаваю, набываю, ѡсѧгаю, достаю, албо посѣдаю, държꙋ (Бяр., 159).

**Осягаючий** *дзеепрым. ад* осягати. Ваалимъ, или Баалі: Болва*н* мои, або панꙋючій минѣ [!], або по*д*даваючій або ѡсѧгаючій мѧ, посѣд ѡсна (Бяр., 247).

**Осягненый, осегненый, осягненный** *дзеепрым. ад* осягнути *ў 1 знач.* с тыхъ полеценыхъ и такъ веліки*х* добро*т* ѡсѧгненыхъ николи б*г*оу дековати не преставай (Валх., 95б); Кругомъ чотыре мили въ томъ дей осегнены дванадцать оступовъ (РПП, 16, 1559); ꙋв озера ꙋвꙗзанье давано быти маеть, ведле ведомости ѡ*т* суседъ ѡколичны*х* ѡсꙗгненое, ꙗко много тонь в которомъ ѡзере будеть (Ст. 1588, 261); ввесь чо*р*ныˢ, ѡсмоленыˢ, на твари на шатахъ далъ сꙗ пове*р*хꙋ виде*т* такиˢ ꙗкиˢ ѡ*т* бѣса былъ ѡсꙗгне*н*ныˢ во внутръ (Пралог, 597).

**Осягненье, осегненье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* осягнути *ў 1 знач.* того самого мае*ш* жада*т* што е*ст* потребно коу ѡсѧгне*ню* ѡвно*г* [!] вечного покою (Пс. XVI, 126); кꙋ розширеню большое во*л*ности, и ѡсꙗгненъю прꙋдъшое справе*д*ливости, рачилъ имъ ... того ꙋзычити и позволити (Ст. 1588, 119); папежъ Римскій ... для осягненя многихъ краевъ и панствъ и богатствъ того свѣта, спѣване зъ органами въ костелѣ постановилъ (Пыт., 80); человека досконалого на то*м* свете чыни*т* ... и способны*м* ко ѡсегненю ска*р*бу в небе справꙋеть (Зб. 255, 412); пани Варвара Мартинова, по смерти детей своихъ, до осягъненя добръ, яко матка, найблизъшою се оказуетъ (ИЮМ, X, 294—295, 1656).

**Осягненьесе** *наз. Пасягненне.* ѡсягненьесе на честь того воˢта ѡ*т* Сегеневича (КСД, 828, 1514).

**Осягнути, осегнути** *дзеясл.* **1.** *Авалодаць; дабіцца.* Королевство жидовске и ине зⷨ҇ли ... моцне ѡсѧгноули и ѡдержали (Валх., 45); уживши и возвавши есмо ку собе врядъ земъский повету Пинского, которого-сьмы найснадней подъ тымъ часомъ осегнуть могли (АВК, XXII, 407, 1570); што жъ бы

намъ то помогло хотѧ бысмо и вес свѣтъ осѧгли, кгды бысмо длѧ того дш҃и свои потратили (Апакр., 200); ѡн ꙋсилуе до персѣи войти нижли бысмы мѣли его елладꙋ ѡсꙗгнут (Алекс., 13б); Борисъ хотѣчи осѣсти и осягнуть господарство Московское, хотѣлъ его замордовати (АЗР, IV, 267, 1608); хотечы ... добра нашы ѡсегнꙋти положыли двои позвы до сꙋдꙋ головного (ККСС, 156б, 1616); в терпливости вашоѕ ѡсꙗгнете дш҃и вашы (Зб. 255, 219).

**2.** *Атрымаць; набыць.* тот пастоух ... черес вѣроу свою здоровье ѡт гс҃на натыхмѣстъ ѡсѧгноул (Валх., 60б); хто ... листу нашого не ѡсегнувшы таковые и ꙗкие колвекъ водле часу припалые потрэбы ѡтправуючы и ими сѧ забавил (Ст. 1566, 13б); простого станꙋ чоловекъ не ѡсегнꙋвши первеѕ ѡт нас гсдра волности шлꙗхетское именеѕ и кгрунтов шлꙗхетских никоторим ѡбычаем поседати ... не можеть (Ст. 1588, 89); оселость тутъ, въ месте Могилевъскомъ осягнулъ (ИЮМ, IX, 225, 1635); аг҃гли ... зычат бовѣмъ и нам всего того, што сами ѡт бг҃а ѡсꙗгнꙋли (Зб. 752, 471); осегнувшы правом прырожоным на себе вси от мала до велика маетности Герцыковские, сами ... жалуючой ничого не дают (ИЮМ, XXVI, 510, 1679).

**3.** *Дасягнуць (памераў).* межи тою горою да таіа гора таборъ не есть болша толко какъ тот клашторь может ѡсегноути (Валх., 74); звѣрѧта велми высоки, и очій полны были, такъ ижъ жаденъ не могъ личбы очнои албо высокости ѡсѧгнꙋти, же ихъ вѣдомость не была дана (Мак., 4).

**4.** *Наладзіць сувязь, кантакт.* пакъ ли бы его милость панъ гетманъ далеко былъ и осегнути его милости трудно было (КПД, 460, 1568).

**Осягывати** *дзеясл. Атрымліваць; набываць.* реликвіе ... кажоуть оусе чересъ вѣроу и набожнство черезъ нихъ многіе немоцне здоровье приимають и ѡсѧгывают (Валх., 93).

**Осядати** *гл.* оседати

**Осядачъ** *наз. Чалавек аселы.* тот Дановский затягнувшы до услуг своих жалуючого за осядача под хоругов зошлого Давида ... оному верне и цнотливе служылъ (АВК, XXXI, 442, 1679).

**Осяденый** *дзеепрым. Абсаджаны.* боѧлъсѧ абовѣмъ жебы оудалившисѧ ѡт Х҃а, зась бѣсами лацно осѧденъ не былъ (Каліст, II, 141).

**Осядлость** *наз. Тое, што і* оседлость *у* 1 *знач.* роспꙋстилъ людъ каждогѡ до ѡсѧдлости егѡ (Хран., 172).

**Осядлый** *прым. Тое, што і* оседлый. двѣ ꙋ них были мѣста великие богатые, ѡсѧдлые (Бельск., 143б—144); кгды пришло до сꙋдꙋ повѣдил ѡт него прокꙋратор же собѣ есть волныѕ шлѧхтич и ѡсѧдлыѕ не повинен без позвꙋ ѡтповѣдат (Стрыйк., 631).

**Осяженье** *наз. Авалоданне; набыццё.* отецъ Макарей ... послалъ до нашихъ земль Рускихъ и Польскихъ выбраного шляхетного Іосифа ... ко навѣженью и опотренью и тежъ ко осяженью людей и костеловъ (АЗР, II, 336, 1535); чомꙋ в сꙋды бж҃іи встꙋпоуючи звоеванья и осаженья того причинꙋ на тое, же греки не папѣжа римского, але самого ха҃ га҃ за одновладцꙋ костелного мѣли, безбожне причинꙋ звалаеш (Апакр., 158).

**Осяжучий** *дзеепрым. у знач. наз. Той, хто ўспрымае дотыкам рук.* оуста маючимъ, а не моваючимъ, очи маючимъ, а не видачимъ ... рꙋки маючимъ, а не ѡсажꙋчимъ, ноги маючимъ, а не ходачимъ, але оуставѣчне днемъ и ночю до Гд҃а Бг҃а своегѡ волаючимъ (Сматр., 21—22).

**Осязание, осезание** *наз. Успрыйманне на дотык.* боудет ли ѡсезаніе горачо и гладко, знаменꙋеть теплотѫ, и сырость (Арыст., 181); Позоръ живота его бѣлъ. и рꙋманъ ѡсазание же его не стѫдено. а жаръ его не великъ (Там жа, 182).

**Осязати, осезати** *дзеясл. Успрыймаць, адчуваць на дотык, датыкацца.* хс҃ъ повелѣлъ Фомѣ ребра своꙗ ѡсазати (Чэцця, 335); в недостаткꙋ и оу голоде ѡбьѣденье што бѣгают по сꙋши ѡсезаа ѡскꙋдѣне и ѡскꙋдѣнье (Зб. 262, 24); изали бы златоꙋстыѕ не ѡсѧзал его пальцемъ (Унія, 33б); на Епспію ѡбранный, аще на избраніе не изволаеть ... или безѕ метрополѣты, ѡсазаеть Епспскіа маетности, тратитъ тꙋю Епспію (Зб. вып., 69).

**Осякнути** *дзеясл. Скончыцца; перапыніцца.* Ное ... выпустилъ голуба за нимъ дабы согледалѕ естьли осакли воды с лица земли (Скар. КБ, 19); натыхместъ осакъло жерело крови ее. и зрозумела на теле ижъ ꙋздоровела (Цяп., 49б).

**Отаборити** *дзеясл. Акружыць табарам.* так же людъ своѕ ѡтаборивъ конми возами людом шолъ моцно (Барк., 154).

**Отаи** *прысл. Тайком.* Естьли жебы кто з ꙋмысла забилъ друга своего отаи, ѡт олтара моего ѡтторгнешѕ таковаго да ꙋмреть (Скар. КВ, 39б).

**Отаманъ** *гл.* атаманъ

**Отамонъ** *гл.* атаманъ

**Отамтуль** *гл.* оттамтоль

**Отбавити** *дзеясл. Адбіць; пераманіць.* мало тобѣ сѧ еще здае*т*, жес мнѣ ѡ*т*бавила мужа, а еще и мандрогоры сына моего хочешъ побра*т* (Біблія, 66).

**Отбавляти, отбовляти** *дзеясл. Адбіваць; пераманьваць.* онъ людей вашей милости отъ вашей милости отбовлялъ (АСД, I, 131, 1553); Мистрове цеховые и товариши и учни ихъ ... купцовъ отбавляти и отзывати не мають (Там жа, 162, 1582); еслижъ оу нихъ оубачивши ѩковоую пыхоу, тымъ взглѧдомъ ѡ*т* патріархіи цр҇игородскои насъ ѡ*т*бавлѧетъ (Апакр., 175). *Параўн.* отбавяти.

**Отбавяти** *дзеясл. Тое, што і* отбавляти. Мистрове ... не мають одинъ отъ другого товариша ани учня отбавять до себе (АСД, I, 161, 1582).

**Отбати** *дзеясл. Тое, што і* одбати. тыи дѣвкы маю*т* свое оузѧ*т* не ѡ*т*баючи на ѡ*т*молвꙋ мꙋжа своего (Вісл., 41—41б); больше не боѩлисѧ злых мѫчителвъ ... и ѩрости людей лихосеръдых. низашто не ѡ*т*бали (Чэцця, 212б).

**Отбеганый** *дзеепрым. ад* отбегати. Животъ смыслѡвъ ѡхилѧнъ и ѡ*т*бѣганъ нами быти маетъ, ѩкъ Бг҇ꙋ брыдкій, и дш҇амъ нашимъ шкодливый (Сматр., 26).

**Отбегати** *дзеясл.* **1.** *Ухіляцца; аддаляцца.* ѡ*т*бѣгаимо всег злого (Чэцця, 266); не толко посполитые, але и дꙋховные згоршившис, длѧ покоры и оубозства цр҇кве хв҇ы ѡ*т*бѣгаю*т* (Каз. Кір., 72б—73); сторона противная поводовая, позвавши ихъ о то передъ насъ на соймъ, ничого противного на нихъ не показуетъ, ани попираетъ и овшемъ тоѣ справы отбѣгаетъ (АЗР, IV, 237, 1600); то чинилѕ, даючи намѕ на прикладъ, абысмѡ ѩкъ не завше вѕ мнѡгомъ посполствѣ обцовали, так не завше громадѕ людій христіанских ѡ*т*бѣгали (Каліст, II, 49б). *Параўн.* одбегати.

**2.** *Адбягаць.* бѣси ѡ*т* тебе далече ѡ*т*бегаю*т* (Чэцця, 347); стрелникъ, видечы же забитый Ониско, хотелъ до леса отбечы, радячы ми тело въ лесѣ поховати, лечъ я просилъ, жебы не отбегалъ (ИЮМ, IX, 339, 1638).

**Отбегаючий** *дзеепрым. ад* отбегати *ў* 1 *знач.* Лаптꙋс, г҃ ... неправос*т* ѡ*т*бѣгаючій. зри аттꙋс (Бяр., 291).

**Отбеглщина** *гл.* отбегщина

**Отбегнути** *дзеясл. Адступіцца, адрачыся.* помолчи нине ѡ моеи таиници. атъ бы не въвѣдал моучитель сотона. атъ не ѡ*т*бѣгне*т* што мѧ мыслить инѧти ратью (Чэцця, 127б); оуже патріархіи царигородской ѡ*т*бежимо, а ѡ*т*бѣгноувши гдежъ

сѧ оудамѡ; змови*ш* же до костела и пастырѧ римского (Апакр., 169).

**Отбеговати** *дзеясл. Ухіляцца.* протож не строфованьѧ ѡ*т*бѣговати, але чинити годное строфова*н*ю, прыналежитъ мѹдрымъ (Апакр., 187б).

**Отбегчи, отбегчы, отбечы** *дзеясл.* **1.** *Аддаліцца, адбегчыся.* ѡни ... были ѡ*т*бегли нехавши градовъ ѡ*т*вореныхъ и ѹже были поодаль ѡ*т* нихъ (Скар. ІН, 17б); онъ тежъ, побачивши люди, отъ мене отбегъ (АВК, XVII, 182, 1540); стрелникъ, видечы, же забитый Ониско, хотелъ до леса отбечы, радечы ми тело въ лесѣ поховати (ИЮМ, IX, 339, 1638); не диво же ведра ѡ*т*бегла, бо се ѹже напила (Зб. 255, 19б). // *перан.* хсвоу праведномѹ солнцю ... тьма ѡ*т*бѣгла (Чэцця, 113б). *Параўн.* одбегчи *ў* 1 *знач.*

**2.** *Адрачыся; пакінуць.* ѡнъ ѡ*т*бегъ [ѡставивъ] в ымѣньи моемъ свирепу съ жеребемъ (КСД, 257, 1516); користъ еꙗ же были ѡ*т*бегли людие асиръстии, побрали суть и скористовалисѧ вельми (Скар. КЮ, 24); тотъ павелъ ... втекъ ѡ*т* мене прочъ не только тое клꙗчи але и всее маетъности своее и детеˢ ѡ*т*бегъ (КВС, 447б, 1552); много его подданых, не могучы терпѣти такого лупежства, ѡтбѣгъшы добытку и быдла ... на иншое мѣстцо переноситисѧ мусели (Атыла, 215); Мнѡгихъ еще за живота ѡ*т*бѣгло богатсво [!] и слава (Каліст, II, 269б); иныи которыи были вˢ вефили, вошли до обозѹ ассірійскаго и корысть, которѹю были асірѧне оутекаючи ѡ*т*бѣгли забрали и ѡбтѧжилисѧ вельми (Хран., 376б). *Параўн.* одбегчи *ў* 2 *знач.*

**Отбегщина, отбеглщина, отбегщына** *наз. Маёмасць, ад якой адракліся, адступіліся.* мы Лозовицкого нашли въ томъ правого, и тую свирепу и ꙗрины, што будеть ѡ*т*бегщины его побралъ, ему есмо присудили (КСД, 258, 1516); то деˢ есми брала ꙗко ѡтъбг҃лъщинѹ бо деˢ ѡнъ ѡтъбегъ того статъкѹ на моемъ име*н*и (КВЗС, 108, 1539); такъже тежъ отъумерщынъ и отъбегъщынъ абы конечъно брати не съмели (КПД, 582, 1557). *Параўн.* отбегщызна.

**Отбегщызна** *наз. Тое, што і* отбегщина. Такъже отъумерщызны и отъбѣгщызны абы конечне не брано, але на той маетности и томъ кгрунтѣ иншыхъ подданыхъ осажоно (АСД, I, 190, 1594).

**Отбегщына** *гл.* отбегщина

**Отбежаный, отбеженый** *дзеепрым. Пакінуты.* жидове и*х* гонили биючи. та*м* великих корыстеˢ достали ѡ*т*бѣжаных ѡ*т*

неприıателеѕ (Бельск., 159б); длѧ того кгды до смерти емꙋ пришло, всѣми опꙋщенъ и ѡтбѣженѕ зостал (Каліст, II, 131); Апстлъ павелъ ... выволоченыѕ перед мѣсто и ꙋкаменованыѕ ıако ꙋбогиѕ члвкъ, и так за ꙋмерлого ѡтбѣжаныѕ лежалъ (Зб. 752, 492б).

**Отбежати** *дзеясл.* **1.** *Адбегчы, аддаліцца (фізічна).* ѡттолѧ дыıаволи ѡтбежали (Чэцця, 106б); ѡтбѣжавши ѡт нег на стрелене з лꙋка сѣла плачꙋчи (Бельск., 18б); кнзь Дмитриі ... егда услышить имя твое и гнѣвь твой, то отбежить у далняя стороны, албо в Новгород великиі (Мам., 170).

**2.** *Адрачыся, адступіцца.* ѡтбежали суть тꙋ филистымлѧне кумировъ своих (Скар. ДЦ, 75б); длѧтого жъ оуже патріархіи царигородскои ѡтбежимо, а ѡтбѣгноувши гдежъ сѧ оудамѡ; змовиш же до костела и пастырѧ римского (Апакр., 169); сарвара гетманъ ледво на коню ꙋтеклъ, воѕска всег ѡтбѣжавши которое ираклиѕ побил (Бельск., 338); хтоколвек ѡтбѣжит пастыра своего власного благословенного и братства а ꙋдастсıа до дрꙋгого собѣ не належного (Дыяр., 163б); свıатыѕ венедикт славы се лудкои [!] стерегꙋчи таемне мамки ѡнои и приıател ѡтбѣжал (Пралог, 514).

**Отбежене** *гл.* отбеженье

**Отбеженый** *гл.* отбежаный

**Отбеженье, отбежене** *наз.* **1.** *Аддаленне (у часе).* Того жъ новыхъ квѣтковъ мѣсѧца, часꙋ весны, коли землѧ дши, пенкныи и заквѣтлыи росчки справедливости выдати можеть, по ѡтбѣженѕи тѧжкои невѣдомости зимы, и ѡзѧблости зѕ спросных оучинковъ и грѣхѡвъ походѧчеи (Мак., 367).

**2.** *Адступніцтва; адмаўленне ад намераў.* Іѡасафѕ зѕ палацꙋ вышолъ ... над потоком его нѣѧкимъ, рꙋки вѕ небо подносѧчого, и молитвы часꙋ шестого ѡтправꙋючого нашли. Ѡбачивши теды его, заразѕ ѡскочыли, и з плачемъ его просили, и на ѡтбѣжене его примовлѧли (Варл., 327—327б); ѡн его ıавне боронил, не бꙋдꙋчы потварами жыдовскими ꙋстрашоныѕ, ани здрадецстом [!] Июдовым ани ѡтбеженем апостолским (Зб. 255, 289).

**Отбераный** *дзеепрым. ад* отберати *ў* 1 *знач.* абымъ его съ того грунту ему за грунтъ церковный даного не рушано и тыхъ грунтовъ не отберано (АВК, IV, 1669).

**Отберанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отберати *ў* 2 *знач.* на отъберанье тое серебъщчины обрали собе берчыми князя Венъцлава ... пана Яна (КПД, 213, 1551); подъ часъ бытности въ замкꙋ брата пана Одинца и пана Веприцкого, для отбераня

грошей кабацкихъ за кабакъ въ ратушу, дано пулъкгарца вина (ИЮМ, I, 137, 1681).

**Отберати** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* отбирати *ў* 1 *знач.* кто на стыхъ присѧгаеть, тотъ славу божію ѡ*т* Бога ѡ*т*берает, и ѡную стымъ, то е*ст* твари, ѡ*т*дает (Будны, 23б); тое церкви Заблудовское ксенжа его милость не отбералъ, дызунитовъ до тое церкви не впровожалъ (АВК, I, 90, 1664).

**2.** *Тое, што і* отбирати *ў* 2 *знач.* которыи бы тыи пенези серебъшчызъныи отъ васъ отъберали и за своимъ ключомъ ховали, и тыхъ пенезей не на жадные инъшыи потребы ни на чый росказъ не выдавали (КПД, 142, 1547); кождое недели отберали мы, шафарове сегорочные ... отъ Данилы млынаря до рукъ своихъ две части зъ млива всякого збожа до скарбу меского (ИЮМ, III, 207, 1685).

**3.** *Дэманціраваць, разбіраць.* Четыри человека, што риштоване отберали старое одъ цекавзу мурованого, на день зол. два (ИЮМ, IX, 144, 1692).

**Отбечы** *гл.* отбегчи

**Отбиати** *гл.* отбияти

**Отбиванье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отбивати *ў* 1 *знач.* Которое отбиванье пробоевъ, защепокъ и дверей ... менили собѣ быти кгвалтовне сталые за насланьемъ на тые села отъ его милости пана Миколая Ясенского (АВК, VIII, 554, 1597).

**Отбивати** *дзеясл.* **1.** *Адбіваць, адломліваць.* намѣстникъ дей твои и слугами твоими, замки отбиваючы, моцно въ нихъ медъ и жито и рыбу на тебе беруть (КЗ, 594, 1495). *Параўн.* отбияти *ў* 1 *знач.*

**2.** *Ізаляваць, адмяжоўваць.* кро*л* мериѡнъ з велику навалностью рыцере*в* на гектора наскочи*л* та*к* его тѧ*ж*ко ѡ*т*биваючи и*ж* его ни жадны*м* ѡбычае*м* приити к телу не прыпȣсти*л* (Троя, 41б); помочники дей его, отбиваючи мене отъ него и отъ того коня и воза моего, збили и зранили мя безвинне (АВК, XVII, 345, 1541); хто бы таковȣю пȣщȣ розробилъ, предъсе давнихъ ȣходниковъ ѡ*т* боръте*ѕ*, ѡзе*р*, сеножате*ѕ* ѡ*т*бивати не маеть (Ст. 1588, 382); мѣщане ... подданыхъ моихъ отъ мене отбиваючи ... оного подданого моего ... бить, забить росказали (АВК, VI, 163, 1689).

**3.** *Перапыняць (дзеянне).* повста*л* велики*ѕ* вѣтръ на во*ѕ*ска евгениꙗ которы*ѕ* не то*л*ко жо*л*неро*м* ѡчи запороша*л* але и потиски и древца и стре*л*бы ѡ*т*бива*л* (Бельск., 294б); кнжа киевское ȣмысли*л* кгва*лт* кгва*л*то*м* ѡ*т*бива*т* литвѣ не *ж*дȣчи

ихъ в киевѣ збро^s^но (Стрыйк., 535); Так^s^ и дш҃а повинна спротивлѧтисѧ, ѡтбивати и ѡтражати (Мак., 24); ѡтражаю; ѡтрꙋчаю, ѡтганѧю, ѡтбиваю, противлѧюсѧ (Бяр., 189). *Параўн.* одбивати, отбияти ў 3 *знач.*

**Отбиватися** *дзеясл., зв. ад* отбивати ў 3 *знач.* рус ревною смѣлостю борониласѧ розмаитою стрелбою и потысками литвѣ сѧ з^s^ ѡбламков ѡтбиваючи (Стрыйк., 534).

**Отбирание** *гл.* отбиранье

**Отбираный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* отбирати ў 1 *знач.* жебы тыи вряды и держанья ... не были вамъ безъ жадныхъ слушныхъ причинъ отбираны (АЗР, III, 6, 1547); вси богатства и скарбы в^s^ божницах захованые ѡтбирано, а мѣсто нихъ ѡс҃щенные церкви Бг҃ови бꙋдовано (Варл., 306б).

**2.** *Ад* отбирати ў 2 *знач.* кгды жъ дей непооднокроть на мне тая скопщизна бываетъ отбирана, але дей нездоровъ ее поживешь (АВК, XVIII, 112, 1593); Въ чорныхъ реестрахъ пляцовое по сотняхъ отбирано (ИЮМ, II, 84, 1684).

**3.** *Ад* отбирати ў 3 *знач.* абы были бочки въ одну мѣру уроблены ... и тыми жъ бочками отсопъ житный къ насенью маетъ быти отбиранъ (АЗР, II, 196, 1529); на достоенства и проложэнства не мають быти ѡтбираны ѡдно естли бы были повшэхное веры хрэстиѧнское (Ст. 1566, 2б).

**Отбиранье, отбирание** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* отбирати ў 1 *знач.* ударили на братства Виленское и Берестейское взаемъ, муками, отбираніемъ добръ (АЗР, IV, 215, 1600—1605); Потом роты певные до ѡтбиранѧ замков назначил (Стрыйк., 596б).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* отбирати ў 2 *знач.* пры отбиранью капъщцыны и въписыван[ь]ю въ рейстръ ... врадъ не большей брати маеть (КПД, 549, 1557); ѡтбиранье пенезе^s^ и слуханьѧ личъбъ поборъцовъ поветовыхъ на тыхъ сумехъ ѡбудвухъ поручоно естъ в корꙋне польско^s^ подъскарбьему великому корꙋнъному (КЛС, 14б, 1596); Отбиране грошей отъ бирчихъ, поголовного, другое раты, сеймемъ уфаленого (ИЮМ, II, 73, 1684); Реестръ отбираня подымного въ третей роте (ИЮМ, VIII, 13, 1691).

**3.** *Дзеянне па дзеясл.* отбирати ў 3 *знач.* жебы часꙋ ѡтбиранѧ ѡт нас^s^ овоцѡв, добрый часъ ѡтдаванѧ ихъ маючи, нашлисмосѧ ѩкъ дерево насаженое при потокахъ водныхъ и овоцъ нашъ часꙋ своего ѡтдали (Каліст, II, 77б); Веремею Ивановичу Агапенку для отбираня дзіорну отъ фурманей, на неделю копу (ИЮМ, V, 156, 1688); Отбиране цекглы отъ

Артема Чулка; отобрали зъ першого горну тысячъ пять сполна (ИЮМ, VII, 239, 1690). ◊ Отбиранье присеги — *прыняцце прысягі.* готов присегу выполнити ... и никого ку отбираню присеги не бачечи, светчилсе на уряде (АВК, XXXIX, 92, 1578).

**Отбирати** *дзеясл.* **1.** *Адбіраць; забіраць.* роука гн҃ѧ оучинила сее ... ѡтимает оуста вѣрникѡм и сладость старымъ ѡтбираеть (Зб. 262, 17); отъ своихъ дей купцовъ вси товары Московскіе росказалъ отбирать (АЗР, III, 165, 1573); ихъ имене[s] кгрѹнътовъ и всѧкое маетности и иныхъ свободъ и волъносте[s] и правъ в нихъ ѡтбирати и ѡтводити ... не маем (Ст. 1588, 71); Кождомѹ просѧчомѹ оу тебе дай, а ѡт берѹчого твое не ѡтбирай (Каліст, II, 108б—109); дѣти ѡт них ѡтбирают (Зб. 752, 52б); им бгъ позволил през лихвѹ ѡтбирати ѡт поган маетности неслѹшне задержаныи (Выкл., 62б). *Параўн.* одбирати *ў 1 знач.*, отберати *ў 1 знач.*

**2.** *Збіраць.* Тежъ мезлевы ... то бы державцы наши пѣнязьми отбирали (АЗР, II, 196, 1529); самъ тут у Речицы пилноват и отбирать побору новопоставленого ... не могучи, заставиломъ [!] ... на местцу моемъ поборцою ... Матѳея (АВК, XXXIX, 110, 1578); правдиве мовълю вам[s], иж[s] ѡтбираютъ заплату свою (Цяп., 7б); съ кабаковъ и съ тамги грошы велить господаръ его милость отбирать по давному (АЗР, IV, 316, 1610); мѣлъ бовѣмъ на то слугъ высажоных которые мыто ѡтбирали (Зб. 752, 561б); въ справахъ воинскихъ успѣшность будетъ день ото дня отбирати (АЗР, V, 196, 1686); Кгды панъ бурмистръ Лапицкій и зъ паномъ райцою отбирали складанъку отъ розныхъ цеховъ, на тотъ часъ казалъ намъ, абы купили на обедъ (ИЮМ, VIII, 86, 1691). *Параўн.* одбирати *ў 2 знач.*, отберати *ў 2 знач.*

**3.** *Прымаць; атрымліваць.* з милости ѹзычаеть лоди христу а ѡтбирает ю полнѹю рыбъ (Зб. 255, 84б); Веремею Ивановичу, што дзіорна отъ фурмановъ отбиралъ, дали за працу полтретя золотого (ИЮМ, V, 154, 1688); вступѹючіи въ станъ малженскій ѡтбираютъ ласкѹ Бж҃ѹю, и берѹтъ власть надъ тѣломъ, мѹжъ над женскимъ, а жена над мѹжскимъ (Зб. вып., 78). ◊ Отбирати присягу — *прымаць прысягу.* Ставшы на року присеги Кузма Грицковичь, которую мел отбирать от товарышов своихъ ... которую ему мели учынити ... пилность свою далъ Кузма записать (АВК, XXXIX, 304, 1579); принѧвши их теды кроль в ласку послалъ там ѡсобы певныи ѡтбират ѡт нихъ присѧгу (Хр. польск., 24б).

**4.** *Выбіраць.* жрець ... ѡтбирает ѡт приношениѧ мирного, и палити будеть и на требнице воню благоѹханиѧ гсду (Скар. КЛ, 11—11б).

**Отбиратися** *дзеясл. зв. Выбірацца, аддзяляцца.* Да не ѡтбираетсѧ доброе и ни злое и ни изменитсѧ едино за другое (Скар. КЛ, 54).

**Отбити** *дзеясл.* **1.** *Ударамі адарваць, адкалоць, збіць.* Иванъ тыи сѹмъки съ пенязьми, замки ѡтбивши, взялъ (КСД, 352, 1516); тогды вольно будеть уряду местскому замки отбить и господу высвободить (СДГВ, 116, 1568); с которог потом конꙗ вночи люд грецкиѕ вышол, бронѹ ѡтбил грецкое воѕско до мѣста пѹстил (Бельск., 91); Овхимъ замокъ отбивши шукалъ и въ коморе дей зъ Иваномъ (ИЮМ, VIII, 395, 1623); Алеѯандер ... ѡтбившы замокъ и вывевшы ѡседлалъ его (Алекс. 1697, 1). *Параўн.* одбити *ў* 1 *знач.*

**2.** *Ударамі, пабоямі пашкодзіць.* Богданъ Лукашовичъ с того бою и ранъ вылечиться и выздоровети не могъ, ижъ ему на онъ часъ животъ отбили (АВК, XXI, 213, 1556); его тежъ и зелжили: наѡстатокъ поѕмавши ѡкрѹтне ѹбичовали: такъ ижъ тѣло ажъ до костеѕ на немъ ѡтбили (Пралог, 591б). *Параўн.* одбити *ў* 2 *знач.*

**3.** *Адмежаваць.* грековѣ ... троꙗнов ѡт берега ѡтбили (Троя, 20); естли бы знашол лицо тогды маеть вести того чл҃вка з лицом до тог враду, чиѕ есть чл҃вкъ, а если бы его ѡтбили ѡт лица або ѡт свежого следу ... тогды (Ст. 1529—Ф, 154); того мистра и тивуна плебанского отъ дому своего отбили (АВК, XVII, 267, 1541); если бы тое село до которого следъ приведено ѡт себе следѹ не вывели або ѡт следѹ ѡтбили або выгнавши быдломъ затоптали (Ст. 1588, 532); войско великое непрыятельское, которое обозомъ стояло подъ замъкомъ прочъ за помочью божою отъбили и розгромили (ИЮМ, I, 354, 1619). *Параўн.* одбити *ў* 3 *знач.*

**4.** *Адабраць, вярнуць шляхам змагання.* нас пан Миколай ... на улицы побил и поранил, хотечы тое тело и тых забойцов слуг пни Пресецкое з рук ншых отбить и отнять (АВК, XXXVI, 289, 1582); ꙗрослав теж хотꙗчи том кгвалт ѡтбити, призвал на помоч ꙗкѹпа (Стрыйк., 456б); гони, бо без вонтпеньѧ поимаешъ их и ѡтбіешъ полонъ (Хран., 240).

**Отбитися** *дзеясл. зв. Адпрэчыць, адвесці пагрозу.* володымер ... собрал противко емѹ воѕско ... ꙗрослав хотꙗчи сꙗ ѡтцови ѡтбит, и ѡтпор дат, принꙗл собѣ на помоч (ꙗко стрыковскиѕ пише) варагов и печинѣгов (Стрыйк., 453).

**Отбитый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* отбити *ў* 1 *знач.* виделъ есми ... дверы порубаны и замокъ отбитъ (АВК, XXI, 232, 1556); у коморы видел есми замокъ отъбитый и пробой выломълены (АВК, XXXVI, 75, 1582); видели на томъ Матюши въ голове зъ боку левого на рогу барзо окрутне пробитую рану и кости шматъ дужій отбито прочъ (ИЮМ, VIII, 524, 1636); мою скрыню зъ снегу кольемъ вывернено и замокъ отбито (АВК, XVIII, 439, 1663); коли се ворочали до вꙗзенꙗ мчнки, мꙗсо з ни*х* ѡ*т*битое падало (Зб. 82, 341б).

**2.** *Ад* отбити *ў* 2 *знач.* за тымъ загнаньемъ въ той свирепы лядви отбиты (АВК, XVII, 172, 1540); на боꙗрынꙋ де<sup>s</sup> виде*л* ранꙋ ꙋ голове плазомъ ꙋдаренꙋю а бокъ левы<sup>s</sup> ѡ*т*биты<sup>s</sup> (КВС, 526, 1552).

**3.** *Ад* отбити *ў* 3 *знач.* того мѣста оуси тамо силно боронѧ*т* ѡли*ж* ѡ*т* него кгвалто*м* ѡ*т*биты боудоу*т* (Валх., 84б); застанови*л*шисѧ [!] таꙗ копа где следу не ѡ*т*веде*н*но або ѡ*т*бито маю*т* послати возного до врѧдꙋ (Ст. 1566 I, 99б); мѣста ѡно*г* косте*н*ти*н* добываючи двакро*т* ѡ*т*биты<sup>s</sup> бы*л* (Бельск., 264); коста*н*ти*н* ... бы*л* по двакро*т* ѡ*т* мѣста ѡ*т*биты<sup>s</sup> (Зб. 82, 23).

**4.** *Ад* отбити *ў* 4 *знач.* Посла*л* те*ж* дѣдъ приꙗтеле*м* свои*м* старши*м* з народꙋ июды з лꙋпо*в* ѡ*т*биты*х* дари (Бельск., 101б); брата его вышеслава ѡ*т*бито*г* з вꙗзе*н*ꙗ на кие*в*скꙋю столицꙋ за пана собѣ преложили (Стрыйк., 459).

**Отбитье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* отбити *ў* 1 *знач.* Вырокъ ... за ѡ*т*битьемъ замковъ ꙋ коморъ въ подворьи въ замку Виленскомъ (КСД, 597, 1509); я того жъ часу тое его кгвалтовное наеханье на дворъ мои и отбитья замковъ и взятье пастуха моего ... возному ... жаловала (АВК, XXII, 176, 1565).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* отбити *ў* 3 *знач.* есть дей тутъ справа с кравцомъ места Виленского ... о отбитье якобы якого забойцы ... который якобы мелъ небощыка Миколая забить (АВК, XX, 168—169, 1601).

**Отбиянье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отбияти *ў* 3 *знач.* Жалуючому за непооднокротною его реквизиціею неодданье и неверненье тое суммы и отбіянье и одганянье одъ оное жалуючого (АВК, XI, 17, 1668).

**Отбияти, отбиати** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* отбивати *ў* 1 *знач.* ꙗну*ш* млына*р* ста*л* на кра<sup>s</sup>не<sup>s</sup> балце ѡ*т*биꙗючи пешною кригу ледовую и за ни*м* два хлопи древнэ*м* валки*м* з мосту тлукли тэ*ж* ле*д* (Еўл., 16).

**2.** *Адварочваць, выклікаць агіду.* тѹт и велика и бридка хороба, котораꙗ самымъ смродомъ и ѡбразливымъ па*т*ренемъ людиѕ ѡ*т* иѡва ѡ*т*биꙗла (Пралог, 662).

**3.** *Тое, што і* отбивати *ў 3 знач.* штуръмы великие непрыятельские отъ замку отъбиали (ИЮМ, I, 353, 1619).

**Отблудити** *дзеясл. Аддзяліць; адвесці.* я отъ бортниковъ пана своего отблудилъ (АВК, XVII, 392, 1541).

**Отблудитися** *дзеясл. зв. Аддзяліцца, заблудзіўшыся.* кгдым такърок паствил быдло, тогды овца моя от стада отблудиласе была (АВК, XXXIX, 540, 1579); заставили грѣшные сило на мне, але ꙗ пре*д*се не ѡ*т*блѹжѹсꙗ ѡ*т* закона твоего (Пс. XVII, 140).

**Отбовляти** *гл.* отбавляти

**Отбой** *наз. Прыстасаванне для забівання паляў (?).* на отбой человекомъ чотыромъ змовили пали бить, за которые пали заплатили золот. три (ИЮМ, V, 110, 1688).

**Отборный** *прым. Адборны, вышэйшага гатунку.* Шелеговъ отборныхъ у дорогу, на росходъ мескій подорожный, одважоныхъ золотыхъ двесте, а клепачовъ зол. сто, чинитъ зол. триста (ИЮМ, IX, 169, 1692).

**Отборонити** *дзеясл. Адбараніць.* панъ Северынъ Стрычковскій до тое стодолы пришовъ, оного дей стрельца ледво отборонилъ (АВК, I, 253, 1612). *Параўн.* одборонити.

**Отборонитися, отборонится** *дзеясл. зв. Адбараніцца.* по тому жъ окну тялъ и до сеней ся вломилъ, доставаючи мене ув ызбе, которомумъ ся ледве з дому своего отборонилъ (АВК, XXVIII, 13, 1562); он дей нас кгвалтом у дворе добывалъ и ворота порубал, иж дей ледво есмо з двора отборонится могли (АВК, XXXVI, 289, 1582).

**Отбрати** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* отобрати *ў 3 знач.* вынеслъ Мѡѵсей вси посохи ѡ*т* обличности гсдни до всих сн҇овъ Ізраилевых и оузрѣли и ѡ*т*брали кождый посох свой (Хран., 139).

**2.** *Тое, што і* отобрати *ў 6 знач.* всѧко*ж* прошѹ тебе, жебысь ... ѡ*т*далъ емѹ цирокграфъ егѡ, и ѡ*т*брал ѡ*т* негѡ пѣнѧзи (Хран., 388б).

**Отбывати** *дзеясл.* **1.** *Выконваць абавязак; задавальняць.* прігожаетсѧ частокро*т* и*ж* из наши*х* землѧ*н* не ѡ*т*бываю*т* своеи чти чинѧтсѧ разбоиніци (Вісл., 28); тое дело такъ сужоно было, нижли отбывалъ его тымъ обычаемъ (КЗ, 517, 1493); матка его и до сихъ часовъ мене ѡбѣтницою ѡ*т*бывала, а того чл҇вка и земли не вернула ми (КСД, 1289—1290, 1519); мѣли

тобѣ давати въ кождый годъ пятнадцать тысячъ золотыхъ, а ты мѣлъ отбывати сыновъ и мурзъ и влановъ своихъ (АЗР, II, 145, 1522); паклижъ бы еси пѣнезей взяти, а оного именъя им поступити не хотелъ, а мел ихъ чимъ отбывати (Арх. ЮЗР, VIII—4, 149, 1545); жалобнику поступити водлу*г* запису и ѹмовы жа*д*ною давно*стю* не ѡ*т*бываючы (Ст. 1566, 83б). *Параўн.* одбывати.

**2.** *Збываць.* тамъ у Юрборку вси купцы товаровъ своихъ маютъ отбывати, и соль тамъ же куповати (АЗР, II, 366, 1540).

**Отбыти** *дзеясл.* **1.** *Ад'ехаць.* самого дей мене самъ Быстрыцкий ... бьючи, и мордуючи и бороду вырвалъ, и бы дей тамъ в перевоза, в замешанью надъ слугами моими, кустовьемъ и водою Немномъ не отбылъ, тамъ же бы горло далъ (АВК, XXI, 71, 1555).

**2.** *Вытрымаць пэўны тэрмін.* котораꙗ жонъка мени*т* собѣ дѣди*ч*ство прилѹчаючи веномь а десять ле*т* не ѡ*т*была, а любо замешькала (Вісл., 21).

**3.** *Выканаць (абавязак, пастанову).* кто бѫде*т* неко*т*рыи добры*и* чл҃вкъ на сѹ*д* позванъ ѡ квалтъ тогды имееть пово*д* на него досве*т*чить або то*т* добрыи имее*т* самь своею прісѧгою ѡ*т*быть (Вісл., 18); пакли ж[s] бы отець [!] девице дати не хотелъ, ѡ*т*будеть сребромъ по обычаю вена девическаго (Скар. КВ, 41б); мы того ивана спытали ты пакъ што к томѹ мовишъ, чымъ хочешъ того ѡтъбыти (КВЗС, 127, 1539); огнь чистите*л*ныи ... повѣдаетъ. в[s] которо*м* дѹша сама ... все ѡ*т*быти може (Каз. Кір., 34). *Параўн.* одбыти.

**4.** *Збыць.* то вѣдаи и разоумѣи. чимъ грѣха ѡ*т*быти (Чэцця, 217); мужъ жену ... искал[s] бы на нее вины ꙗкобы ю моглъ ѡ*т* себе ѡ*т*быти (Скар. ДЗ, 43); кгды мне трафилося быти по купетствах с товарами своими у Смоленску там их отбыт ... не могучи, тые товары свои у Смоленску ув онбари зоставил (ИЮМ, XXXII, 187, 1577); за таковыми оного Юрка Войтюха похвалками и вжо отбывшы отъ себе тотъ напитокъ горѣлки, до него мѣлъ тотъ замыслъ (АСД, I, 296, 1636).

**5.** *Пакінуць; страціць.* на тотъ дей часъ я пана своего, яко зраненый, отбылъ, о которомъ не вемъ, где естъ (АВК, XXI, 96, 1555). ◊ Отбыти памети — *страціць прытомнасць.* Согремор добыл меча и вдарылъ его плазом по голове такъ моцно, ижъ ѡн палъ на землю и памети ѡтбыл (Трыст., 47—48); феѡфилъ Але*ѯ*андри*и*ски*и* ѹма і памети ѡ*т*бы*л*, в хоробу впа*д*шы ѹмерлъ (Зб. 81, 226).

**Отбытье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отбыти *ў* 4 *знач.* Лечъ ст҃ое писмо иншую нам^s дорогу оуказуеть къ ѿтбытью грѣхѡвъ (Будны, 162).

**Отвабеный** *дзеепрым. ад* отвабити. то есть цатка роботы моей, а згинула ми въ небытности моей, въ тотъ часъ, кгды ми и хлопца отвабено (АВК, XVII, 62, 1539).

**Отвабити** *дзеясл. Адцягнуць, адвадзіць, параманіць.* онъ теперь зася того паробка отъ мене отвабилъ, а пѣнязи мои за нимъ (АВК, XVII, 65, 1540); тые оурꙋганьѧ твои не ѿтвабѧть его ѿт ихъ послꙋшенства, ани привабѧт до ѿтданьѧ послꙋшенства папѣ римскомꙋ (Апакр., 160); всѣхъ однакъ хитрости и зрады одинъ сей конецъ есть; абы чл҃вка ѿт Бг҃а лестками ѿтвабивши, к^s собѣ пригорнꙋли и загꙋбили (Каліст, I, 13б).

**Отвабляти** *дзеясл. Адваджваць, адцягваць, пераманьваць.* я жоны его отъ него не отваблялъ (АВК, XVII, 168, 1540); г҃ь б҃ъ тымъ хрстіаномъ ... такои над ними опатръности оуживати рачитъ, же ихъ ани хроненьѧсѧ оутискѡм, ани шꙋканьѧ роскоши ѿт хрстіанской вѣры не ѿтваблѧеть (Апакр., 159б). *Параўн.* отвабяти.

**Отвабяти** *дзеясл. Тое, што і* отвабляти. чомоу залецаючи намъ едность з^s члѡнками римского костела ѿт едности с правдивою костелною головою хо҃мъ гсдемъ, в^s которой животъ зависъ насъ ѿтвабѧти смѣет^s (Апакр., 164).

**Отвага** *наз. Адвага.* были, межи мнѡгими таковои славы шꙋкаюкіи [!] ... славы (хоть порожнеи) мнѣманꙋю несмертельность, не ркꙋчи скарбовъ и маетностіи, але здоровѧ и живота ѿтвагою кꙋпꙋючіи (Каліст, I, 3). *Параўн.* одвага.

**Отваженье I** *наз. Страта.* обрыд^sмо собѣ того бога, которого з^s ѿтваженемъ здоровѧ своего и набываемо и ховаемо, а онъ насъ ... завше опꙋскает (Каліст, I, 36).

**Отваженье II** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отважити *ў* 1 *знач.* Заплатили у важницы за отважене (ИЮМ, XII, 140, 1698).

**Отважити, отважыти** *дзеясл.* **1.** *Адважыць.* талентъ сребра ѿтважу до скарбу твоего (Скар. КЕ, 8); Былъ вожъ того во^sска такъ богаты^s, же сѧ козаком хотѣл два разы ѿтважит золотом, трикрот сребром (Хр. польск., 19б); Стережи мꙋжа сегѡ, который если сѧ вымкнет, дꙋша твоѧ бꙋдет за дꙋшꙋ егѡ, або талант сребра ѿтважишъ (Хран., 314б); штабы ... у важницы отважыли пудовъ трыдцать и два (ИЮМ, VI, 160, 1689); купили ... берковецъ штабы ... которую отважили у важницы, всего важила берковецъ и фунты чотыри (ИЮМ, VIII, 154,

1691). // *перан. Ахвяраваць.* з[s] стороны вѣры и законоу греческого ꙗко бым сѧ могъ важити такъ велікои и поважнои речи псовати. при чимъ не толко маетность, алемъ и горло готовъ ѡтважити (Апакр., 18б). ◊ О т в а ж и т и г о р л о — *разявіць рот.* жидове мног римꙗн побили, бо ꙋже горла свои ѡтважили длꙗ поживенꙗ (Бельск., 234). *Параўн.* одважити ў 1 *знач.*

2. *Тое, што і* отважитися ў 2 *знач.* кгды ꙋже их полно было в том домꙋ, ѡтважил собѣ ѡдин жид, а шедши замкнул их там, намазавши двери сѣркою и смолою и запалил (Бельск., 234—234б). *Параўн.* одважити ў 2 *знач.*

**Отважитися, отважытися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* отважити ў 1 *знач.* Не воздастьсѧ злато рыжее въместо еꙗ, ниже ѡтважитсѧ срѣбро въ мѣну еꙗ (Скар. KI, 33б); Если можете злечыти, хочу сѧ вамъ злотом ѡтважыти (Бава, 16б).

**2.** *Адважыцца, набрацца адвагі.* Дозорцы рочніи ... не мают ... никомꙋ жаднои вещи братерскои ... позычати. А хто бы сѧ в том з них ѡтважил, виннаѧ ѡсоба повинна бꙋдеть: чверт[s] камѣнѧ воскꙋ дати (Ст. бр., 22б). *Параўн.* отважити ў 2 *знач.*

**Отважне** *прысл. Адважна.* два штурмы потугом великого войска цара Московского и срокгим фортелем отважне выпрамели (АВК, XXXIV, 157, 1660).

**Отважовати** *дзеясл. Ахвяроўваць.* Понꙋждаюсѧ: ... оустремлѧюсѧ всеꙋшнѡ, ѡтважꙋю здоровье свое, ѡплъчаюсѧ (Бяр., 111—112).

**Отважоный** *дзеепрым. ад* отважити ў 1 *знач.* узяли усе вагою у важницы отважоное, намнейшое ваги у возъ семъ железа пудовъ трыдцать два сполна (ИЮМ, VII, 87, 1690).

**Отважыти** *гл.* отважити

**Отважытися** *гл.* отважитися

**Отвалати** *гл.* отволати

**Отвалевати** *дзеясл. Адвальваць.* егда собирахусѧ вси овце, ѡтвалеваху камень и напоивши стада опѧть полагаху и надъ ꙋстиемъ кладезѧ (Скар. КБ, 52б).

**Отваленый** *дзеепрым. ад* отвалити. камень из гроба ѡтваленый оувидели (Валх., 69б); видили камен ѡтвалены[s] и ангела мовꙗчого до нихъ слышели (Зб. 259, 38б).

**Отвалити** *дзеясл. Адваліць.* жидова ... начали мыслити хто ѡтвалит намъ камень (Чэцця, 327); ѡтвалите камение ѡт дири пещеры (Скар. IН, 22б); аньгелъ ... приступивши ѡтвалилъ камень ѡт дьверей гробовых (Цяп., 42); ѡтвалимо камен

великого скарбꙋ (Чэцця, 54б); не забываите своего ѡтечествиꙗ (Там жа, 250).

**2.** *Тое, што і* отечество *ў 2 знач.* всѧ отечествиꙗ ѧзыкъ прославлѧють (Чэцця, 28б).

**Отечество** *наз.* **1.** *Радзіма, бацькаўшчына.* поиди ты в ликию на свое ѡтечество (Чэцця, 89). *Параўн.* отечествие *ў 1 знач.*

**2.** *Род, племя.* Сие ест причастие сыновъ Веньаминовыхъ по отечествахъ ихъ (Скар. ІН, 36); Тии сꙋть родовѣ Ноевы по людехъ и отечествахъ своихъ (Скар. КБ, 22б). *Параўн.* отечествие *ў 2 знач.*

**3.** *Вотчына.* такому царю по своему отечеству служити и прямити (АЗР, IV, 490, 1615).

**4.** *Адносіны, якія ўстанаўліваюцца паміж удзельнікамі абраду хрышчэння (паміж свяшчэннікам і тым, хто падвяргаецца абраду хрышчэння, з аднаго боку, і паміж хроснымі бацькамі і хроснікам, — з другога).* Третій, естъ повиновацство дх҃овное, а тое двоѧкое, первое ѡтечества межи крестѧщимъ и крещаемым, крещаемымъ и кꙋмами (Навука, 25—26).

**Отечи** *дзеясл. Ацячы, апухнуць ад лішку вадкасці ў тканках.* гоубы шіа горло оусе было ѡтекло (Пак. Хр., 12); ѡтечет лицо а изменит ли сѧ краса его и вѣки низкые. знамѧ скаженіѧ печеннаго (Арыст., 191); ногу ему четвертую на трехъ скачучи ꙋказовал, котораꙗ была полъна ѡтекла гноем (Пралог, 488—488б).

**Отжаловати** *дзеясл. Суцешыцца, прымірыцца са стратай чаго-н.* пана и младенца моего поѕмано и ведено до зловѣрнаго мꙋчителꙗ. А так ꙗ того николи не ѡтжалꙋю (Зб. 752, 163б); коли до мене не приѕдешъ николи того не ѡтжалуешъ (Зб. 82, 322б). *Параўн.* оджаловати, отжелети.

**Отже** *выкл. Вось жа.* ѡтже маешь правый того писаніа розумъ, которое посполите приводѧть къ оутверженіи съществіа Хв҃а дш҃ею въ адъ (Будны, 143б).

**Отжелети** *дзеясл. Тое, што і* отжаловати. престалъ естъ Царь Давыдъ гонити Авесалома, понѣже ѡтжелелъ былъ смерти аммоновы (Скар. ДЦ, 90б).

**Отжениться** *дзеясл. зв. Ажаніцца.* вароваль тутъ же собе Яцко Конашевичъ черезъ того умоцованого своего, ижъ естли бы тая жона его въ черницы вступила, маетъ се домовлять у суду духовного, абы ему отжениться другою жоною волно было (ИЮМ, VIII, 257—258, 1598).

**Отженути** *дзеясл. Выгнаць, адагнаць, выдаліць каго-н. адкуль-н.* ѡ*т*жени враги борющиꙗсѧ с нами (Чэцця, 80б); молитесѧ гсду да ѡ*т*женеть жабы ѡ*т* мене и ѡ*т* людеи моихъ (Скар. КВ, 16—16б); закꙋришъ ꙋтробою рибею которꙋю маешь при собѣ, а ты*м* ѡбычае*м* диаволство ѡ*т*жене*ш* (Бельск., 143). // *перан. Пазбавіць каго-н. якіх-н. думак, пачуццяў і інш.* Встане*т* заисте добротливый Гдь Бгъ, встанетъ, и весь страхъ ѡ*т*женетъ (Каліст, II, 138б); не бо^s^сꙗ хртос всимъ боꙗзни ѡ*т*женеть (Зб. 752, 178б).

**Отживати** *дзеясл.* **1.** *Аджываць; абуджацца з надыходам вясны.* все створе*не*, зимное оувѧдне*не* ꙗкобы заморе*не* нѣѧкое ѡ*т*ложивши, з^s^ въскресеніа Хва радꙋючее сѧ и веселꙋючее быти видит^s^сѧ. Все абовѣмъ отываетъ [!], все зась ѡ*т*живаетъ (Каліст, I, 114).

**2.** *// перан. Адраджацца, з'яўляцца зноў.* в оныхъ змлѧх и королевства*х* почалосе паганство множити и болъванъство почало ѡ*т*живати (Валх., 68б). *Параўн.* одживати.

**Отживляти** *дзеясл. Ажыўляць, вяртаць да жыцця, зноў рабіць жывым.* вода з^s^ нба ходѧчи ѡ*т*живлѧетъ и кормит^s^ вшелѧкіи з^s^ землѣ походѧчіи дерева и травы (Каліст, I, 134—134б). *Параўн.* одживляти.

**Отжововати** *дзеясл. Аджоўваць; жуючы, аддзяляць што-н. ад чаго-н.* Двекꙋю: Ѡ*т*жовꙋю, рꙋмигаю, пережовꙋю, рꙋменꙋю, меризаю (Бяр., 32—33).

**Отзватися, отзватисе** *дзеясл. зв.* **1.** *Тое, што і* отозватися *ў 1 знач.* бꙋдꙋчи доброи надѣи ѡ*т*звалисꙗ бе*с*са и набара*к*, и повѣди*ли* вве*с* способъ сме*р*ти его (Бельск., 175); макари^s^ падши на землю и млтвы до бга пꙋстивши взыва*л* на брата ꙋме*р*лого недавно, а ѡ*н* емꙋ се ѡ*т*зва*л* (Там жа, 255).

**2.** *Тое, што і* отозватися *ў 4 знач.* ѡна ещо на томъ мало мѣла ѡ*т*звалася въ той рѣчи до князя бискꙋпа и до пановъ ихъ милости до всее рады (КСД, 49, 1510).

**Отзовъ** *наз. Апеляцыя, зварот у вышэйшую інстанцыю са скаргай на рашэнне ніжэйшай.* абы ся таковыми упоръными отъзовы справедливость людьская не отволокала (КПД, 186, 1551); хто бы тэ*ж* без причины слушное ѡ*т* суду по*д*комо*р*его ѡ*т*зовъ ꙋчини*л* (Ст. 1566, 67б—68); одзывалсе дей есми в той справе до трыбуналу и они дей мне и отозву допустити не хотели (АВК, XXXVI, 131, 1582); где бы комꙋ сꙋдъ коморъника которого не подобалъсе ѡ то ѡ*т*зовъ ити маеть ... до сꙋдꙋ головного (Ст. 1588, 357); При то*м* приводитъ права о апелѧ-

ціахъ [на полі — о ѡтзовехъ] такъ же тежъ и звычай складаньѧ синодовъ, первосѣданьѧ на нихъ, потвержаньѧ ихъ, и прочаѧ (Апакр., 92б); про то прикладом артыкулу деветдесятого з розделу четвертого тотъ отзов ему до суду земского не належыт (АВК, XXX, 313, 1606). *Параўн.* отзывъ.

**Отзыванье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отзывати ў 1 *знач.* тогды воевода нашъ маетъ моцно передъ собою его къ праву поставити, безъ каждого отзыванья передъ насъ (АЗР, II, 35, 1507); отъзыванье або апеляцыя отъ права до вашое милости не ма моцы, одъно при бытъности вашое милости у Великомъ Князстве (КПД, 34, 1538); Ѡ ѡтзываню зъ суда до насъ господара (Ст. 1566, 63б); ѡ ѡтзыванью з сꙋдꙋ до головныхъ сꙋдеѕ (Ст. 1588, 243); Такое правило иоустиніаново, и зажъ ѡтзыванѕѧм твоимъ ꙗвне не есть противное (Апакр., 136).

**Отзываньеся** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отзыватися ў 1 *знач.* То речъ певнаѧ, же если где змѣнка сѧ дѣетъ о чиненѕю ѡтзыванѕѧсѧ на соудъ до папы римского, тогды тамъ речъ есть не о всѣхъ всего свѣта епспѣхъ (Апакр., 139б); ѡтзыванѧсѧ на соудъ до римꙋ зо всего хрстіанства, не толко вѕ правилахъ црковныхъ фꙋндаментꙋ не маетъ, але ꙗсне ѡными соут забороненые (Там жа, 140).

**Отзывати** *дзеясл.* **1.** *Апеляваць.* не маетъ нихто ѡтзывати збиваючи позов и сказанемъ року и иными припалыми а не правными причинами (Ст. 1566, 64); он, не хотечы права слухат, отзываючы до войта, одышол был проч з уряду (АВК, XXXIX, 524, 1579); я, бачечы быть собе з уближенем права, до суду головного трыбунальского отзывалъ и того ми допустити не хотели (АВК, XXXVI, 163, 1582); о тотъ тестаментъ тутъ не росправуючысе и въ право се не въдаючы до тое росправы у суду головного, сторона моя отъзываетъ (АВК, XVIII, 215, 1607); потом вся братя ... мают ... земского, и местског римское вери и грецкое от суда их не отзывати (СДГВ, II, 35, 1608). *Параўн.* одзывати.

**2.** *Тое, што і* отзыватися ў 2 *знач.* похлѣбцомъ, которые сѧ емꙋ приспособлѧючи, до его вызнаньѧ нещире ѡтзывали, приганѧючи мовилъ, же дошолъ того, же не бога хвалили але шарлатъ (Апакр., 218б).

**3.** *Выклікаць.* обвиненый поведилъ, ижъ теперь толъко зъ Вилна аттестацыи привезены, а першой [!] разъ не мелъ при собе тыхъ автентыковъ, и на свядецтво людей отзывалъ (ИЮМ, IX, 342, 1638).

**4.** *Адмяняць, аб'яўляць што-н. узаконенае раней несапраўдным.* мы то все ѡ*т*зываемъ а ни во што ѡборочаемь (Вісл., 41).

**Отзыватися, отзыватисе** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* отзывати *ў* 1 *знач.* ѡ*т*зывался въ томъ до насъ господаря (КСД, 135, 1519); у суда нихто ся не маеть отъзывати на праве для отволоки справедъливости (КПД, 33—34, 1538); не маетъ ся нихто зъ нихъ до воеводъ и до старостъ повѣтовыхъ отзывати, олижъ по сказанью (АЗР, III, 32, 1551); то*т* хто сѧ ѡ*т*зываеть не маеть су*д*и сло*в* соромотныхъ мовити (Ст. 1566, 63б); панове сꙋдьи тое сказанье вашо мне сѧ видить не водле права ѡ*т*зываюсѧ с тымъ до сꙋдꙋ головного (Ст. 1588, 244); такій декре*т* есть оучиненъ. презвитери и клирици нехай сѧ не ѡ*т*зываютъ на соудъ, толко на африканскіе синоды (Апакр., 136б); небо*ж*чи*к* тꙋчи*н*ски<sup>s</sup> ѡ*т*зывалсѧ те*ж* з вами на тое право а не хотѣли есте емꙋ зложи*т* (Стрыйк., 619б); мещанъ суражъскихъ ... толку у Суражу ... судити маютъ, а отзыватися до насъ господара нихто не маетъ, ажъ по суде (ИЮМ, II, 246, 1646).

**2.** *Звяртацца да каго-, чаго-н. за падтрымкай, спачуваннем і інш.* ѡ*т*зываючисе до с͠тои справе*д*ливо*с*ти в которо<sup>s</sup> дꙋфа*л*, ꙋмыслилсѧ борони*т*, и кгва*л*т неслꙋшны<sup>s</sup> ѧко могꙋчи, слꙋшною ѡбороною ѡ*т*би*т* (Стрыйк., 552б). *Параўн.* отзывати *ў* 2 *знач.*

**3.** *Спасылацца на каго-, што-н.; прыводзіць у якасці доказу.* сами некоторіе земяне Клецкіе намъ о томъ чоломъ били, отзываючи ся на листы привилья продковъ нашихъ (КПД, 432, 1567); се я Миколай Поликовский ураду и пану Ивану Рагозе, не отзываючисе ни до оселости своее, ни до пана своего, которому бых на тотъ час служылъ, во всемъ уищу (АВК, XXXVI, 172, 1582); тотъ доводъ або выводъ, на которы<sup>s</sup> сѧ ѡ*т*зывалъ, показавши маеть перъве<sup>s</sup> на томъ присегнꙋти, и*ж* тотъ рокъ собе ѡдеръжала и ꙋпросила, не на проволоку ѧкꙋю сторонѣ противно<sup>s</sup> (Ст. 1588, 159); я и теперь съ тымъ всимъ отзывалъ се до першого мовенья моего, же тыхъ чотырохъ строкъ, о которые споръ идетъ межи нами, въ листѣ моемъ не было написано (АВК, VIII, 455, 1588); за чым в право вдаватисе и личбы чынити не хотел, отъзываючыся на вспомнене приятельское (АВК, XXXI, 219—220, 1595).

**4.** *Адзывацца, адгукацца на зварот.* бѣс которы<sup>s</sup> в не<sup>s</sup> мешка*л*, мовꙋ ꙋже бы*л* страти*л* и никомꙋ се на пыта*н*е не ѡ*т*зыва*л* (Бельск., 279б).

**5.** *Адбівацца (пра гукі).* длѧ того в писмѣ с͠томъ незбо*ж*но*с*ти тыхъ люде<sup>s</sup> ѧко ехо ѧкое ѡ*т*дае*т*сѧ и ѡ*т*зывае*т*сѧ (Зб. 259, 150б).

**6.** *// перан. Выклікаць сабой якія-н. пачуцці.* вшелꙗкие катованꙗ в сердцꙋ сꙗ пречистои ѡтзывают (Зб. 259, 638).

**Отзывъ** *наз. Тое, што і* отзовъ. передъ сказаньемъ отъ пановъ радъ, яко тежъ и отъ воеводъ, такъ тежъ и отъ судей, не маетъ ся нихто отзывати, абы ся таковыми упорными отзывы справедливость людьская не отволокала (АЗР, III, 33, 1551).

**Отиймованый** *дзеепрым. ад* отыймовати *ў* 1 *знач.* справедливыхъ дꙋшѣ не бываютъ отіймованы, але ѡтдаютъ еи ѡни сами Бг҃ови (Каліст, II, 159б).

**Отиймовати** *гл.* отыймовати

**Отийти** *гл.* отыйти

**Отимати** *гл.* отыймати

**Отимовати** *гл.* отыймовати

**Отиненый** *гл.* отыненый

**Отинудъ** *гл.* отынудъ

**Отинуль** *гл.* отынуль

**Отинюдъ** *гл.* отынудъ

**Отиралникъ** *наз. Ручнік.* Лентіонˢ, лат: Понѧва, аб ѡтиралник, простирадло, товалнѧ (Бяр., 292).

**Отиранити** *дзеясл. // перан. Надаць рысы, уласцівыя тыраніі — неабмежаванай аднаасобнай уладзе.* оумысливши собѣ римскій епспъ началство нѣѧкое тиранское, и имѧ отиранилъ посполитое, собѣ единомꙋ привлащити хотѧчи. папою хотѧчи сѧ назвати единъ, и единъ быти цр҃кви началомъ и головою (Апакр., 18б).

**Отиранье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отирати *ў* 2 *знач.* во гною лежат мꙋсꙗлъ, а не маючи ани хꙋст до ѡтиранꙗ ропы с вродовъ ѡных текꙋчꙋю, скорꙋпою стират: все в кꙋпꙋ сꙗ собрало (Пралог, 662).

**Отирати, отерати, отырати, оцирати** *дзеясл.* **1.** *Абціраць, выціраючы, рабіць што-н. чыстым.* повелѣл ... мꙋчитель соукномъ ѡстровласным ѡтирати раны ее (Чэцця, 86—86б); ꙗкъ далеко болей розмовѧючомꙋ Гсдꙋ зˢ Маріею, зˢ Закхеемъ, и грѣшницею, котораѧ розпꙋщеными волосами ѡтирала ноги Гсдни (Мак., 115); ꙋпадаеть ꙋ ногъ, хотꙗ и здороги ... ꙗк великим их дожщемъ слезъ ѡмываеть, ꙗко власами з пилностию ѡтѣраеть (Зб. 255, 171); исꙋс ... ꙋмывалъ ꙋченикомъ ноги и ѡтиралъ [ручникомъ] которимъ былъ препоꙗсаныˢ (Зб. 259, 632—632б); хустку маючи в рꙋкахъ твар хороˢ ѡт поту ѡтирала (Пралог, 539б); наняли одного абы полмиски и талерки змывалъ а другіи оциралъ (ИЮМ, V, 137, 1688).

**2.** *Сціраць, выціраючы, здымаць што-н. з чаго-н.* плащомъ своим ѡтирал гнилое плюкгавство тѣла ѡного (Зб. 107, 184—184б); слезы зъ ѡччу ее онаꙗ пресветаꙗ рꙋка отирала (Зб. 255, 37б); человѣкъ такъ богатыѕ до такои нендзы пришолъ, же хꙋсты чимъ бы гноѕ ѡтиралъ не моглъ мѣти (Зб. 259, 498б); много слезъ выливалъ. ѡ которихъ толко хꙋстка его вѕ которую слезы ѡтыралъ. вѣдала (Пралог, 591); скорꙋпами спеклую кров ѡтират казал (Зб. 82, 385).

**Отиратися** *дзеясл. зв.* **1.** *// перан. Ад* отирати *ў* 1 *знач.* частокроть допꙋскаетъ людем вѕ хорѡбы впадати, абы сѧ отирали и чистили ѡт грѣхѡвѕ, грѣхами опанованыи (Каліст, II, 35).

**2.** *// перан. Знаходзіцца, бадзяцца каля каго-, чаго-н.* длѧ того так сѧ кроль стараеть, абы сѧ не многіе ѡколо тебе ѡтирали, але нѣкоторые толко (Варл., 31б); трꙋднаѧ речѕ ест ... абы сѧ хто ѡколо огнѧ ѡтираючи, дымом еднак не ѡкꙋрилъ (Там жа, 98б).

**Отисканый** *гл.* отысканый

**Отисканье** *гл.* отысканье

**Отискати** *гл.* отыскати

**Отисковати** *гл.* отыскивати

**Отистье** *гл.* отыйтье

**Отити** *гл.* отыйти

**Отишие** *наз. Зацішша.* Тихо пребываетъ: Безмольствꙋет, въ ѡтишіи пребывает (Бяр., 171).

**Отказаный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* отказати *ў* 1 *знач.* пытаеть данилъ коли бꙋдеть конецъ тыхъ дивовъ и такъ емꙋ ѡтказано, ꙗко во времѧ и времене и въ полвремене, то есть черезъ полчетверта лѣта (Унія, 37).

**2.** *Ад* отказати *ў* 3 *знач.* тая маетность и добра матки мне отказаные и описаные от поме[не]ного опекуна ... дошли и зуполне отданы суть (ИЮМ, XXX, 123, 1577).

**Отказанье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* отказати *ў* 1 *знач.* тым его смѣлым и гордым ѡтказанем. витовтъ ѡбрꙋшеныѕ ... выправилсꙗ з воѕском литовским и жомоитским против емꙋ (Стрыйк., 552).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* отказати *ў* 3 *знач.* которая дей тая земля по смерти стрыя моего небожчыка Семена Антоневича на мене брата и на дочку рожоную того небожчыка Семена ... за правом прырожоным и за остатною волею а ... отъказанемъ спала и достала се (АВК, XXXVI, 85, 1582).

**Отказатель** *наз. Той, хто дае адказ на чые-н. словы або запытанні.* се ждал есми словом вашим приложих оухо к розоумом вашим докꙋл досмотрити слов: и докꙋл вас врозꙋмѣх ано нѣть иѡвꙋ ѡбличающаго и ѡтказателю слов его ѡт вас (Зб. 262, 25б).

**Отказати, откозати** *дзеясл.* **1.** *Адказаць; сказаць што-н. у адказ на зварот ці запытанне.* вы нашими послы ѡтказали к нам свои речи (ПГ, I, 158, 1458); о всемъ о томъ хочомъ помыслити съ паны радою нашою и своимъ посломъ откажомъ (КЗ, 344, 1480); солдан ѡтказал чи есть котора днина оу год коли бы болше нижли тисаць [!] воштаевъ каменіа навозили на боудованіе (Валх., 82); сынъ ее ꙗкꙋбъ ставъшы перед нами ѡтъ матки своее ѡтказал што сꙗ ижъ деѕ матъка наша тепер з божего допꙋщеньꙗ немоцна (КВЗС, 11б, 1533); Што на онъ часъ вы Господари ѡткажете, коли на страшномѕ судѣ, станете (Будны, 64); ѡнъ ѡтказалъ: Не мовилъ есми зъ жоною ничого (Бава, 132); заложꙋсѧ жебы не ꙋмели на то и слова ѡтказатъ (Унія, 28б); ѡтказалъ воротныѕ, маю росказанне ѡт старца же хотбы самъ кн҃жѣ пришолъ не пꙋсти (Пралог, 642б). *Параўн.* одказати ў 1 *знач.*

**2.** *Выказаць што-н., паведаміць аб чым-н.* тые судьи тамъ выездчали и того межи ними смотрели, и тотъ судъ свой тобе отказали (КЗ, 158, 1496); мы рокъ положили въ середу тымъ свѣткомъ передъ нами стати и свое свѣтоцство ѡтказати (КСД, 33, 1510); або бы кому видѣлася кривда: тогды они мають то отказати передъ старостою и судьею и подсудкомъ, и они мають тому конецъ вчинити (АЗР, II, 80, 1511); мы ѡ тꙋю близкость и ѡ тꙋю й копъ грошеѕ хочемъ ѡтъказати (КВЗС, 11б, 1533); тотъ коморникъ нашъ, будучи тамъ и опытавши того священника передъ людми добрыми, свѣдѣтство оного попа передъ нами отказалъ, тымъ обычаемъ (АЗР, III, 48, 1553).

**3.** *Завяшчаць.* покол господарю королю его милости ездъ свой откажем, дотол кнегини Семеновой ... в тыхъ ловех не ловити (Пін., 4, 1473); который Витблянинъ, вмирая, откажеть остатокъ своего именья кому, и въ то намъ не вступатисе (КЗ, 846, 1503); двое овецъ отказалъ небожчикъ по собе тому сыну меньшому (АВК, XXI, 15, 1555); Хома ... ему дерева колод липовых гробовых што колвекъ их есть половицу отказалъ (ИЮМ, XXXII, 125, 1578); небожчыкъ ... зходечы з сего света, которую ручницу мел, то мне откозал (АВК, XXXIX, 387, 1579); коли умер король Аполонъ, ѡтказалъ тѣло его в реку

вкинувши утопити (Трыст., 2); Янъ Репникъ на спиталь отказалъ маетность свою (АВК, XX, 199, 1602); за тое все *ѡт* братіи оуписной ... ничого брано быти не маетъ. вынѧвши то, же кождый который бы былъ замо*ж*ны*и* и знаючійсѧ на дискреціи *ѡт*казалъ. и самъ доброволнѣ ... за часꙋ распорѧдилъ (Ст. бр., 18б). *Параўн.* одказати *ў* 2 *знач.*

**4.** *Паказаць, прад'явіць.* коли знайдете *ѡт*кажите и мне а ѧ те*ж* поидоу а боудоу се молилъ емоу (Валх., 51); всѧкии листъ прочти е*г* пре*д* правителе*м* свои*м* ... а будет ли го*д*но досмотрети его и наказати на то. и ты *ѡт*кажи и напиши его на дрꙋгои стороне того же листа, что поусти*л* к тобе слоуга твои (Арыст., 170); Матфей Тарасовичъ, отведши насъ отъ той стежки якобы на полъ гоновъ, отказалъ намъ другую дорожку (АВК, XVII, 329, 1541); панъ Андрей Свирский листъ свои купъчий на тые две полянки передъ нами отъ того Кондрата даный отказалъ (АВК, XXI, 54, 1555); ямъ, отказавши листъ з ураду, мовиломъ, абы мя до двора пустилъ (Там жа, 123, 1556—1557).

**5.** *Выступіць на судзе ў якасці адказчыка; даць паказанні перад судом.* хочемъ в то*м* тобе *ѡ*тъказати пере*д* теперешнимъ воеводою (КВЗС, 7, 1533); я дей за сына своего откажу и за дворъ и наймитю пана своего (АВК, XVIII, 50, 1582).

**Отказатися** *дзеясл., зв. ад* отказати *ў* 1 *знач.* протожъ не тоутъ, але та*м* где ре*ч* боудетъ о томъ оповѣда*н*ю на тые свѣдецства, нижей в пришломъ роздѣле *ѡт*кажетсѧ (Апакр., 56).

**Отказованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отказовати *ў* 3 *знач.* умоцованый повѣдилъ: ачъ дей досыть было на першой моцы ему, отъ княжати пана его на зыскъ и стражу до тое справы даное, такъ же на отказованье, пришло (АВК, II, 282, 1590).

**Отказовати, отказывати** *дзеясл.* **1.** *Адказваць; гаварыць што-н. у адказ на зварот ці запытанне.* пила*т* призвавши іса к собе. рече*т* емоу што то есть иже тыи проти*в* тебе кажоу*т* свѣдочьства а ничого к ни*м* не говори*ш* албо не *ѡт*казоуе*ш* (Пак. Хр., 18); хто *ѡт*казꙋеть слово пере*ж* ни*ж*ли выслꙋхаеть безꙋмье то емꙋ и соромъ (Зб. 262, 102б); Наперваи на тое тако *ѡт*казую, иж ѡ томъ ни ѡдинъ евангелистъ не пишеть ((Будны, 12б); оный дей мужыкъ ничого имъ на то не отъказуючы, але изседшы с клячы, самъ пешо утекъ (АВК, XXXVI, 166, 1582); таки[s] ... мае*т* просто на пыта*н*е сꙋ*ди* *ѡт*казова*т* (Зб. 261, 221); ѡте*ц* ꙗко хитри[s] не *ѡт*казꙋючи томꙋ послови ничо*г* ани словне ани пре*з* ли*ст*, ꙋпровади*л* его за собою до ѡгорода (Бельск., 150); та*к* ничого не *ѡт*казꙋючи посла*н*ца до сына

ѡтправил (Рым. лет., 79б); О чомъ тотъ же Кирилъ ... отказываетъ тыми словы (Гарм., 177); ѡни на кождое пытане ѡтказовати повинни (Навука, 157). *Параўн.* одказовати *ў* 1 *знач.*

**2.** *Завяшчаць.* моцон будет речи свои имене купленое таковое ѡтказывати куды хочеть так духовным парсунамъ ꙗко и светским (Ст. 1529—Ф, 63); цесар феѡдосиѕ которыѕ шторок такие листы давал, ѹчинил на еретики ѹставѹ такѹю ... абы ничог ѡтказоват тестаментом и брати не могли (Бельск., 304); Што будетъ товару, то все дочцѣ нашой Маринѣ, сошники, отказуемъ (АВК, VI, 243, 1624); все собраніе мое домовое жонѣ и дѣтемъ моимъ отказую (АВК, III, 5, 1670).

**3.** *Выступаць на судзе ў якасці адказчыка; даваць паказанні на судзе; несці юрыдычную адказнасць.* коли бы чиѕ пес конѧ вола або иншог каког другог ѹелъ або ему тым которую шкоду вчинил, за таковое быдло гсдръ будет повинен ѡтказывати (Ст. 1529—Ф, 153); абы панове рады и панове преложоные духовные мѣли передъ урядники повѣтовыми отказывати (АЗР, III, 37, 1551); поведили есмо имъ тымъ помененымъ Лаврыну а Войтеху Миколаевичомъ, абы на жалобу того помененого Петра Станиславовича водле позву отказовали (АВК, XXIV, 430, 1584); по присꙗзе ѡт перъвшого сказаньѧ воленъ бѹдеть, а на речъ самѹю тамъ же заразомъ ѡтказовати маеть (Ст. 1588, 185); сторона позваная на жалобу стороны поводовое отказывали (ИЮМ, VIII, 214, 1593); сторона позваная мает на позов, яко на жалобу, отказовати и справитисе (АВК, XXXII, 135, 1596); Мартинъ Доха поведилъ, ижъ дей на тотъ позовъ по себе яко неоселого вынесеный отказовать не повиненъ (АВК, I, 283, 1617); по прыезде и по ознайменю, сторона обжалованая отказовати повинна будетъ (ИЮМ, VIII, 390—391, 1623). *Параўн.* одказовати *ў* 2 *знач.*

**Отказъ** *наз.* **1.** *Адказ (словы, выкліканыя пытаннем або зваротам, выказаныя пісьмова або вусна).* такъ было безвестъно и безъ отказу войны не пускати и огнемъ не жечи (КЗ, 447, 1486); кое бы се было искѹшене на иѡве оу вѣки про ѡтказы мѹжом криведным (Зб. 262, 27); на которые жъ ихъ прозьбы отъ его милости господаря имъ суть въ тые слова вчинены отказы (АЗР, III, 25, 1551); Отказъ на другий листъ господарьский (АВК, XXI, 154, 1556); Пытанье. Которое вѣры еси ты; ѡтказъ. Хрістианьское вѣры (Будны, 1б); пнъ подскарбиѕ ... напоминалъ, а што ведать ꙗкую с того потехѹ ѡбецѹючы на потомные часы, ведѹчы до згоды чого а николи в насъ не могъ

зеднати з *о*тказꙋ, же мы не хочемъ бы*т* таковыми ꙗко та*м*тые ѡ*т*щепенцы (Барк., 149); На то вже достаточный отказъ маютъ, тамъ и руками правды дощупатися могутъ (Гарм., 179). ◊ Чинити (учинити) отказъ — *даваць (даць) адказ.* ты къ намъ черезъ тые наши послы отказъ учинилъ противъ посольству нашому (АЗР, I, 133, 1493); ѡнъ те*ж* поведалъ, ꙗ тежъ васъ не прошу абысте ꙗки[s] ѡ*т*казъ чинили ѡ*т* мене (Барк., 148б). *Параўн.* одказъ *у* 1 *знач.*

**2.** *Справаздача за свае дзеянні, учынкі.* мы, подлугъ ѡ*т*казу пана Бутримова, какъ намѣстникъ его судилъ, казали есмо тому Небокгелю паней Богдане заплатити пять копъ грошей (КСД, 69, 1510); мы сами, ани вижи наши, ани сторона зъ великого князства ку отказу не были (АСД, I, 92, 1546); Іацко Гаврилович ... на отказ з ураду одержал собе термин, альбо рокъ, до дня третего (ИЮМ, XXX, 145, 1577); его мл. кнзь Ваврынецъ ... прыслалъ мене прыятеля своего на отказ на тотъ позовъ (АВК, XXXVI, 138, 1582); не маютъ, и не бꙋду*т* мочы зъ ѡ*т*казу правного за бавою, таковых слꙋжбъ своихъ вымовлꙗтисе (Ст. 1588, 27); зачымъ домавялъ се, абы ему, ведле права, деляцыя на отказъ допущона была (ИЮМ, VIII, 390, 1623). ◊ Быти въ отказе — ***выступаць на судзе ў якасці адказчыка.*** маеть Миколай ... о тую часть именья Бельского в отказе быть (АВК, XXII, 50, 1557); водле бегу права третего дня в отъказе его милости буду (АВК, XXX, 1, 1585); на дрꙋгихъ рокохъ нихто не маеть болшою справою вымовлѧтисѧ, але се повиненъ становити и в отъказе быти ꙗко на завитомъ рокꙋ (Ст. 1588, 161); чинити (вчинити отказъ) — ***выступаць (выступіць) у якасці адказчыка; даваць (даць) паказанні на судзе.*** панъ дей Таруса на то поведилъ: я дей теперь панамъ секретарамъ на то отказу чинити не готовъ (АВК, XXI, 70, 1555); абы человека ... у везеню не гноила, а право на немъ переводила, обыслано и посылано, не приняла а ни жадного отказу не вчинила (ИЮМ, VII, 274, 1577); Панъ Миколай Кгудиевский ... на жалобу вышей менованую, с позву чиненую, чынечы отказ, поведилъ (АВК, XXX, 60, 1590). *Параўн.* одказъ *у* 2 *знач.*

**Отказываный** *дзеепрым. ад* отказывати *ў* 3 *знач.* позовъ естли бы на одномъ которомъ арътыкуле былъ збитъ, тогды абы на другіе арътыкулы, въ томъ же позъве описаные, отъказывано (КПД, 193, 1551).

**Отказываньеся** *наз. Дзеянне па дзеясл.* отказыватися. што будет на нем осужено ... шкоды, тогды мают отправены быти,

а тым ся отказыванемъ жадной справедливости проволока быти не мает (Ст. 1529, 45).

**Отказывати** *гл.* отказовати

**Отказыватися, отказыватисе** *дзеясл. зв. Адмаўляцца.* абы се нихто ѹпорне в чужомъ корыстити над право ку проволоцэ стороны своее противное не ѡтказывалъ (Ст. 1566, 64б); сторона ... не повинна на таковый позовъ се непорядный стороны жалобливой отказывать (АВК, XX, 116, 1596).

**Отквитнути** *дзеясл. // перан. Адцвісці, адкрасаваць (пра чалавечае жыццё і пад.).* Гдь ... вспомнел ижъ есмь порох. члвкъ ꙗко сѣно, дни его ꙗко полны[s] квѣт такъ ѡтквитнет (Пс. XVII, 107).

**Откгуль** *наз. (?) Ухіленне, устрыманне ад якіх-н. дзеянняў, учынкаў.* ѡтцеве ст муват абы законникъ починал ѡткгѹлы даючи причинѹ (Зб. 261, 90).

**Откидание** *наз. Дзеянне па дзеясл.* откидати *ў 2 знач.* абовемъ таꙗ невеста кгвалтъ ѹчинила собе, ижъ покоръне и терпливе так срокгое ѡткидание выдержала (Зб. 255, 6б).

**Откидати, откидать** *дзеясл.* **1.** *Адкідаць, кідаць убок; адсоўваць.* иꙗков теды созвавши дом вес свой реклъ ѡткидайте боги чѹжие, котории в посродку вас суть (Біблія, 75); тѣло людское, хоть з многих частей бѹдѹчи зложеное, жадного еднак члонка своего не ѡткидает[s] (Варл., 248); ѡтрѣваю: ѡтмѣтѹю, ѡтрѹчѹю, ѡткидаю, ѡтпыхаю, ѡтгонѧю (Бяр., 190); Наняли поденщика откидать цекглу отъ окна канцелярыи (ИЮМ, VI, 53, 1689). *Параўн.* одкидати *ў 1 знач.*

**2.** *Не прымаць, не прызнаваць каго-, што-н.* Мѹсимъ ꙗко члонъкове за головою то естъ за рымскимъ Папою ... Бо его то самого ѹрѧд есть ѡткидать и радить карать и потверъжать (Бер. саб., 32); оупоминают што нимаетъ с писмъ поваги, а што сѧ с правдою минаетъ ѡткидати позволѧютъ (Апакр., 67б—68); вси роскоши до заживанѧ нам[s] ѡт богов дарованые, в[s] надѣю нѣѧкогос иншого непевного живота з[s] оумыслѹ ѡткидают[s] (Варл., 222); немале престава[s] а розличност потрав ѡткида[s] (Зб. 255, 104б); Которихъ сынъ презъ справедливость ѡткидалъ, матъка ижъ естъ назбыть милосердна зась до ласки его ихъ приводитъ (Пралог, 610); Не ѡткида[s] же мене часу старости (Пс. XVII, 48б); коли хто книги которыи ѡт цркви за слово бжие принꙗтыи ѡткидаетъ (Выкл., 98б). *// перан. Пазбаўляцца, вызваляцца ад чаго-н.* члкъ ... помыслит што злого и зараз ѡткидает скоро зрозѹмевши (Зб. 261, 201б);

если есмо добры, лѣность ѿкидаемо: а если есмо ѡхочи, ставаемѡ сѧ ѡхотнѣйшими (Каліст, II, 24б—25). *Параўн.* одкидати *ў* 3 *знач.*

**3.** *// перан. Аддаляць, адтэрміноўваць.* правнымъ обычаемъ передъ тыми судьями полюбовными усправедливитися маемъ на тотъ же рокъ ... ничимъ того року не откидаючи (АВК, XXI, 141, 1556).

**Откидатися** *дзеясл., зв. ад* откидати *ў* 2 *знач.* Б҃же не ѿкида^s же сѧ ѿ мене, а поспешисѧ ѡ Б҃же мо^s на ратꙋнокъ мо^s (Пс. XVII, 48б).

**Откидать** *гл.* откидати

**Откидаючий** *дзеепрым. ад* откидати *ў* 2 *знач.* не спѣванемъ великогласнымъ благовѣріе и побожность бываетъ познавана и горломъ краснымъ выхваляючій Бога, а учинками откидаючій росказаня его (Пыт., 80).

**Откидовати, откидывати** *дзеясл.* **1.** *Адкідваць.* Иван послал сѧ до места Мѣнска и до тых кꙋпцов, которыи ꙋ него тыи селедци брали и емꙋ засѧ ѿкидывали (ПГ, II, 92, 1480); заповѣдалъ боазъ молодцомъ своим рекꙋчи тѣжь межи снопы нехаи збираеть ... ѿкидꙋите еи ѿ жмене и ѡставте и зберёть (Зб. 262, 32).

**2.** *Не прымаць што-н.* на докончанье посмотрити не хочетъ, а ни взяти того передъ себе, што тамъ написано, и тое докончаніе откидываете, еже невозможно откинути (АЗР, I, 278, 1501—1503); хꙋдоба и ганба томꙋ хто ѿкидꙋеть наказанье а хто хранит наказанье бꙋдет оучтен (Зб. 262, 99б).

**Откидоватисе** *дзеясл., зв. ад* откидовати *ў* 2 *знач.* тые ѿ вѣры хрестіанское и ѿ пана ѩна пана своего и ѿ вѣры томаша индийского патріархи ихъ моцно се ѿкидовали (Валх., 88б—89).

**Откидывати** *гл.* откидовати

**Откинение** *гл.* откиненье

**Откиненый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* откинути *ў* 1 *знач.* в^s которій часъ зновꙋ дш҃а принѧвши свое тѣло, ѿ ѡблича Панского бꙋдет ѿкинена и на мꙋкꙋ до огнѧ вѣчного бꙋдетъ подана (Варл., 86).

**2.** *Ад* откинути *ў* 2 *знач.* ѿто всех людей чти позбоудешъ и ѿкинено боудеш (Валх., 95б); хотѧж старꙑ^s закон ест ѿкинены^s леч приказанѧ не сут ѿкинены (Зб. 261, 223б); Дв҃дъ по брыдкомъ и ѿ Бг҃а ѿкиненом Саꙋлѣ на кролевство встꙋпилъ (Каліст, II, 253); Ани люди крвавые и мꙋжобоицы,

поневаж по правиломъ *ст* ѡ*тц҃ъ* ѡ*т*киненые сꙋть (Навука, 143); жодалъ есми ꙗ самъ бы*т* ѡ*т*киненым ѡ*т* христа за братию мою (Зб. 259, 613б); такъ же значи*т* што*с* ѡ*т*киненого и взга*рж*оного, слово ꙋ ст҃го павла звычаѕное (Выкл., 55); коли бы*л* мꙋдрыми словы ѡ*т*киненыѕ и възга*рж*оныѕ, зновꙋ еи мꙋчи*л* (Зб. 82, 33б).

**3.** *У знач. наз. Занядбаны, адрынуты чалавек.* подыимоуе*т* гсь все*х* которые оупадаю*т*, и подноси*т* все*х* ѡ*т*киненых (Пс. XVI, 139).

**4.** *Падкінуты, падкладзены ўпотай з пэўным намерам.* ложки, въ той же коморе покраденые, намъ откиненые суть (ИЮМ, VIII, 252, 1597).

**Откиненье, откинение** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* откинути *ў 2 знач.* ты Кролю ꙗкій собѣ ты*х* животъ быти розꙋмѣешъ; На*д* вшелѧкие иншіе речи, Кроль речетъ, если*м*ъ которые коли видѣ*л*, бырзо невдѧчныи и нендзныи, и погорженѕѧ годныи и ѡ*т*киненѕѧ (Варл., 137б); ꙗ*к* далеко розныѕ е*ст* дꙋхъ света того кгды*ж* вшелꙗки*м* ѡбычае*м* ѡ то се старать жебы кро*в*ные и пови*н*ные ѡ*т* христа и наследова*н*ꙗ доскона*л*ости во ѡ*т*кинен*ю* всих речеѕ земныхъ ѡ*т*тегалъ (Зб. 255, 127).

**2.** *Збаўленне, вызваленне ад чаго-н.* пристꙋпѣмо еднак до Га҃ покꙋтою и сповѣдію, и ѡ*т*кине*н*емъ нечисты*х* и бры*д*ки*х* оучинкѡ*в* наши*х* и справъ (Каліст, II, 192).

**3.** *Адняцце; пазбаўленне чаго-н.* на еи гдъ҃ бг҃ъ допꙋсти*л*, не на ѡ*т*кине*н*е бл҃годати своеи, але на до*с*вѣ*т*чене те*р*пливо*с*ти еи (Бельск., 359б).

**4.** *Адасобленасць; незалежнасць.* ихъ капланы держа*т* некоторе книги оу своихъ цр҃квахъ басне ѡ*т* столца апсльского ѡ*т*кинен*і*е (Валх., 81б).

**Откинути** *дзеясл.* **1.** *Адкінуць, кінуць убок; выкінуць.* панъ Трыщанъ ѡткинулъ щытъ и взѧл мѣчъ у ѡбе руки (Трыст., 111); ѡныѕ зако*н*ни*к* видечи не вытрва*л*, по*р*ва*л* пре*д* д*р*ꙋги*м* миск*ꙋ* а свою ѡ*т*кинꙋ*л* (Зб. 261, 147б); е*с*ли ѡко твое го*р*ши*т* тебе вылꙋпъ е и ѡ*ткин* (Там жа, 153); ѡ*т*кинꙋвши темнꙋю заслонꙋ, до свѣтлости лица Панского прибѣгнꙋ (Варл., 256б); два Нимцы капитаны зъ килька-десять дракгуновъ скочивши, законниковъ отъ трумны и отъ воза откинули (АЗР, V, 76, 1645); Ежелѣ бы Капланъ ... мѣсто хлѣба пшеннаго, взѧлъ хлѣбъ житный, албо иншый ꙗкійко*л*векъ, повиненъ ... хлѣбъ житный ... ѡ*т*кинꙋты, а пшенный взѧти (Зб. вып., 28б).

2. // *перан. Пазбавіцца якіх-н. уласцівасцей, якасцей і пад.* ѡнъ ... как ѡрелъ возлетѣлъ всю ѡткиноулъ немоць (Чэцця, 321); цесарь ... всю ѡкроутность оумышленіа ѡткиноул (Пак. Хр., 24б); веселисѧ юноше в молодости своей. и потом, ѡткин гнѣвъ ѡт срдца своего (Каз. Кір., 148б); кестут ѡткинꙋвши вшелꙗкꙋю вонтпливость з збросною рꙋкою впал до вилнꙗ (Стрыйк., 546б); злѡсти и грѣхи нашѣ ѡт себе ѡткинмо (Каліст, II, 10); вси перешкоды ѡт себе ѡткинмо (Мак., 38); тꙋю зs очей срдчныхъ слѣпоту и темностs ѡткинꙋвши, взглѧнь, и Бга моего свѣтлость всѣх ѡсвечаючꙋю ѡбачъ (Варл., 213б); выгнане терпелъ з маткою божою ѡткинувшы смерти боꙗзнь сталъ под крестомъ збавителевым (Зб. 255, 139—139б). *Параўн.* одкинути *ў* 1 *знач.*

3. // *перан. Адмовіцца ад каго-, чаго-н.; вырачыся каго-, чаго-н.; не прыняць, не прызнаць каго-, чаго-н.* люд млсти пѣнѧзии ѡткиноувши болше и болше кꙋ доткнению стго тела рвалисѧ (Жыц. Ал., 99б); ѡткинулъ еси слово гсдьне и ѡткинулъ тебе гсдь (Скар. ПЦ, 32б); не маючы ни отъ кого жадное помочы и поживенья в старости летъ моихъ, яко отъ сына моего властного и отъ дочокъ моихъ рожоныхъ, которые мене в старости летъ моихъ отъ себе откинули ... тому Юрью Яновичу ... дарую (АВК, XXIV, 382, 1581); новый календаръ, ꙗко тотъ который до нерѧдꙋ далъ причинꙋ, ѡткинꙋвши, ꙗко сѧ вернꙋтъ до старого, заразъ нерѧдъ и мѣшанина престанет (Апакр., 50б); поставлю примире мое з вами, а не ѡткинет васъ дꙋша моꙗ (Біблія, 175); вы есте прочъ ѡткинꙋли наше приказане (Алекс., 12б); коронꙋ и пꙋрпꙋрꙋ ѡткинꙋлъ (Варл., 33б); не тебе ѡткинули, але мене абым не крꙋлювал [!] над ними (Выкл., 70). *Параўн.* одкинути *ў* 2 *знач.,* откинутися *ў* 2 *знач.*

**Откинутися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* откинути *ў* 2 *знач.* не змажю тестаментоу моег што вышло ѡт оустъ моих не ѡткинꙋлос (Пс. XVI, 91).

2. *Тое, што і* откинути *ў* 3 *знач.* присѧгал гсь дѣдꙋ справедливостю и не ѡткинет сѧ еи (Пс. XVI, 130б); Ѡдинадцатый грѣхъ не дбати ѡ божіе слово, або сѧ его ѡткинꙋти (Будны, 8); Давлитесъ ... былъ нѣꙗкъ раненъ ѡт медьведѧ дикого, и тутъ ѡткинул сѧ ѡт Иосифа крещениꙗ (Трыст., 71); Которыи запрѧтsсѧ и ѡткинꙋтсѧ Бга, запрѣны тежъ и ѡт него бꙋдꙋтъ (Каліст, II, 3б); ꙗкъ погане ходѧтъ вs порожности розꙋмꙋ своего, потемненые маючи мысли, и ѡткинꙋвшисѧ ѡт славы Бжеи (Варл., 169).

**3.** *Адасобіцца ад каго-, чаго-н.; парваць сувязь з кім-, чым-н.* Царь Навходносорˢ ... царѧ Седехию поималъ и очи ему выбралъ, понеже ѡткинулˢсѧ былъ ѡт него (Скар. ЧЦ, 238б); Также дей и Нагайцы и иншые орды отъ него ся откинули (АЗР, III, 164, 1573); люди ратные ѡт скиргаила ѡткинѹлисѧ и пошли до вилни до кнѕѧ великого кестѹтѧ (Патр. П, 97); заходныи панства ... сѧ были дла его ѡкрѹтенства и блѹдов ѡ ѡбрази [!] ѡт него ѡткинѹли (Бельск., 348); в том пришла вѣдомост менелаю цареви, же сѧ ѡткинѹлъ ѡт него рѹгасъ кнѧжа каакимское (Тр. гіст., 68б).

**4.** *Адмовіцца ад ранейшага намеру, не пацвердзіць чаго-н.* Розгледишь теперь собѣ, што бы то за справа або якыи бы чинъ былъ, почавши о навращеніи ѧзыковˢ говорити, ѡткинутисѧ, и о иншую рѣчь стати выписовати (Будны, 143); теды корову первей сторговалъ былъ на име Грицъ за чотыри копы, который откинулъсе, не купилъ (АВК, XVIII, 391, 1652).

**Откладание** *гл.* откладанье

**Откладаный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* откладати *ў* 1 *знач.* апэлѧцыѧмъ ѡт врѧду рокъ завитыˢ маеть быти ѡткладан при бытьности нашои в томъ тутошнемъ панстве нашомъ (Ст. 1566, 64б).

**2.** *Ад* откладати *ў* 3 *знач.* если бы ... на тоˢ сѹме пнзеˢ емѹ ѡтправа ѹчинена, тогды з скаръбу нашого ѡному таѧ сѹма ѡткладана быти маеть (Ст. 1588, 228).

**Откладанье, откладание** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* откладати *ў* 1 *знач.* се добрыи обычаи был ѡткладанію роков велікых земьскых (Вісл., 39б); ѡбецуемъ скутэчную без ѡтволоки и ѡткладанѧ справедливост вчинить (Ст. 1566, 15б); мы гсдрь тому не фолькгуючи без всѧкое проволоки, и ѡткладаньѧ на инъшиˢ часъ ... таковаго ѡбвиненого ... маемъ зо всихъ земль паньства нашого казати выволати (Ст. 1588, 139); анѣ ѡткладаймо сего часѹ ... жебы насъ вˢ томъ лениивствѣ и ѡткладаню конецъ не надспѣлъ (Каліст, II, 325б); небезпечнаѧ речь естˢ ѡткладане, длѧ того, ижˢ презначеный кˢ смрти днь не есть вѣдомыи (Варл., 61б); Закоснѣніе: Ѿтлаганье ... замешкане, ѡткладане (Бяр., 48); пан богъ бѹдет судѧ наˢвышшиˢ и которыˢ в сѹжению ѡмылит се не можеть ѡт него до него не будет ѡткладане (Зб. 255, 398б).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* откладати *ў* 3 *знач.* тотъ панъ чия земля мает безъ откладанья пенязей землю ку своимъ рукам узяти (Ст. 1529, 75); што ся дотычеть отъкладанья пенезей за

тые именья, и того такъ же маеть панъ староста досмотрети (КПД, 202, 1551); ѡ ѡтъкладанью пн̑зѣ*и* за заставꙋ (Ст. 1566, 83б); по сме*р*ти ѡного дожывотника таковые добра нашы волно без ѡ*т*кладаньѧ сꙋмы пн̑зе[s] на томъ доживотнику презысканое до столу нашого ворочатисе мають (Ст. 1588, 228).

**3.** *Звяржэнне, скiданне.* ꙗзыкъ криведныи ненавидить ѡбличителеи своихъ а оуста гла*д*кыи чинѧть ѡ*т*кладанiе (Зб. 262, 107).

**Откладатель** *наз. Складальнiк, стваральнiк.* рек ѡ*т*клад*т*ель. Наболши что бꙋдеть вѣтръ ноутренiи тонокъ и лего*к* е*с*тво*м* свои*м*. боуде*т* боржии премен*ѧ*т(и)с*ѧ* ѡ*т* вѣтра внѣшнѧго (Арыст., 217).

**Откладати, откладать, отклодати** *дзеясл.* **1.** *Адтэрмiноўваць, пераносiць на больш позні час.* рокꙋ а ѡ*т* трехъ неде*л* далеи не имаю*т* ѡ*т*клада*т* (Вiсл., 12б); господаръ его милость съ паны радою своею тое дѣло откладаеть на иный часъ (АЮЗР, I, 34, 1506); мы ... отклодаемъ то до середы пришлое (АВК, XXXIX, 323, 1579); мачоха моꙗ завъжды такъ мене ѡтъбываеть роки собе ѡтъкладаеть (КВЗС, 26б, 1537); потреба и о тое бг̑а просити, абы того днѧ не ѡ*т*кладалъ, але сѧ с[s] нимъ поспешилъ (Будны, 187); Видечы то ижъ ест Ижота с нимъ ѡдное мысли, не ѡткладаючы далеи того, шли у комору и сполънили свою волю (Трыст., 68); А въ лимитацыю впали таковые справы мы господаръ ѡ*т*сꙋдити маемъ не ѡ*т*кладаючи на часъ далшы*и* (Трыб., 4б); хотѧ сторона позванаѧ не станеть на роки первшие, тогды предъсе сꙋдъ не маеть ѡ*т*кладати на далшие дрꙋ̑гие роки (Ст. 1588, 186); вси справы ... до певъного часꙋ ... лимитꙋ̑емъ и ѡтъкладаемъ (КЛС, 1, 1596); Амꙋра*т* ... хорони*л*сꙗ битвы сточе*н*ꙗ ѡ*т*кладаючи то на ины[s] ча*с* (Бельск., 405б); не ѡ*т*клада[s]те и не ꙋтрача[s]те до ко*н*ца спасениꙗ ваше*г* (Зб. 259, 48); ꙋважъ теды чл̑вче тые страшныи мꙋки, а не ѡ*т*кладай покꙋ̑ты на тамтой свѣтъ, за грѣхи своѧ (Зб. вып., 46). *Параўн.* одкладати.

**2.** *Адмяняць, аб'яўляць несапраўдным што-н. прынятае ці ўзаконенае раней.* Откладаемъ щкодъливый [!] обычай, штожъ наши подданыи держалися посполного обычаю: коли мужъ женѣ умреть, тогды жена сядетъ на удовьемъ стольцы во всемъ имѣньи, а у томъ великы щкоды дѣтемъ ся дѣють (АЗР, I, 39, 1420—1423); Частокро*т* прiгожалосѧ ижь два а любо четыри ѡбажены ѡ мꙋжебойство. а казнено и*х* ... на прiсѧгꙋ прiводѧ. мы ѡ*т*кладаемь тыи прiсѧгы. а оуставлѧемъ

иж толко ѡдин имееть быти ѡсꙋженъ (Вісл., 24); мы, довѣдавшыся давности, штожъ мещане Виленскіе перво сего николи мосту передъ городомъ не мощывали имъ то откладаемъ (КЗ, 570—571, 1495). ◊ Откладати на сторону — *адмяняць, касаваць (што-н. прынятае ці ўзаконенае раней).* мы ужо теперъ оную личбу плотовую на сторону откладаемъ (СДГВ, 76, 1542); вси посполите тако ѡную речъ толъкуют, ꙗко бы Хс҃ вѣтхаго закона заповѣди на сторону ѡткладалъ, а свои новые заповѣди законилъ (Будны, 21б); тотъ тестаментъ во всемъ будучы неправъне вделаный ... его самое право посполитое на сторону отъкладаеть (АВК, XX, 66, 1597).

**3.** *Выплачваць, адлічваць для выплаты (грошы і інш.).* хто наганит а любо нареч сказанію старосты краковъскаг имееть емꙋ ѡткладать лꙋпежмы горностаиными (Вісл., 30б); которые бы съ призволеньемъ пріятелей своихъ прирожоныхъ до чужоѣ земли замужъ шли, абы имѣнья зоставили близкимъ, а они бы имъ водлѣ шацунку за тыи имѣнья пѣнязи откладали (АЗР, III, 37, 1551); не повинны будуть дети и близкие таковог вена ѡтъкладати (Ст. 1566, 73б); ѡпекꙋнъ принемъшы пн҃зи ꙋрꙗдовне з них сторонꙋ, котораѧ пенези ѡткладати бꙋдеть, квитовати маеть (Ст. 1588, 298); тое сумы пенезей сорока копъ грошей литовских отъкладати не маемъ (ИЮМ, XXXI, 12, 1592).

**4.** *Адхінаць, адхіляць, адводзіць убок.* Положил заслонꙋ на твар свою, жебы сꙗ люд не лекал, а кгды з гдем розмовꙗл, теды заслонꙋ ѡткладал, а кгды з людми закривал твар (Бельск., 53б).

**5.** *// перан. Адвяргаць, не прымаць пад увагу, ігнараваць.* тотъ требникъ нашъ найбольшъ длѧ самыхъ сщ҃енъниковъ, речи до епскпа належащіе, ꙋмысльне на тотъ часъ ѡткладаемъ (Навука, прадм.).

**Откладаючий** *дзеепрым. ад* откладати *ў* 1 *знач.* таѧ дш҃а должей мꙋки терпитъ, длѧ нецнотлѣваго каплана ѡткладаючаго день ѡт днѧ ѡтправованіе слꙋжбы Бж҃еѧ (Зб. вып., 29).

**Откладовати, откладывати** *дзеясл. Адтэрміноўваць.* почал помышлѧти самъ ѡ собѣ што ѡткладываю далече. и што долго терьплю к тому. чого делѧ не ꙗвлю (Чэцця, 191б). ◊ Откладовати на сторону — *адмяняць, касаваць (што-н. узаконенае ці прынятае раней).* мы тое мыто у Верьках на сторону откладуемъ и на томъ зоставуемъ (СДГВ, 73, 1542).

**Откладовый** *прым. ад* откладъ. По которыхъ то суду нашого откладовыхъ декретахъ ... тые жъ умоцованые ... ечевисто становили (АВК, XV, 442, 1683).

**Откладъ** *наз. Адтэрміноўка, перанясенне на больш позні час.* не хочем имѣт такых ѡтткладовъ рочных ѡт нашихъ подданых (Вісл., 39б); тогды безъ жадного вжо откладу, отправивши на немъ тую тры копы гроши, Андрею Свирскому отдано маетъ быти (АВК, XVII, 348, 1541); панове воеводове и панове старостове поветовые мають того съ пильностью дозрети, абы ся таковые проволоки за тыми ихъ отъклады шляхъте не деяли (КПД, 197, 1551); то мы сами с паны радами нашими без жадное проволоки и ѡткладовъ сꙋдити росправовати маемъ (Ст. 1588, 169); тая дей справа вжо, яко се зачала, третея недѣля идетъ, и вжо дей въ ней по трикротъ откладъ чиненъ былъ (АВК, VIII, 450, 1588); На року, зъ откладу припаломъ ... умоцованый стороны поводовое, Осипа Процковича, Макаръ Гавриловичъ, жаловалъ ... на Оксиню Кузминъну (ИЮМ, VIII, 232, 1596); на дрꙋгие рочки позывати наказалъ за декретом и ѡткладом тогож сꙋдꙋ (КАР, 7б, 1646); на сей часъ тое справы несуженья, лечъ оное до дальшого термину откладу домавялъ се (АВК, XV, 441, 1682). *Параўн.* одкладъ.

**Откладывати** *гл.* откладовати

**Отклодати** *гл.* откладати

**Откозати** *гл.* отказати

**Отколе, отколь, отколя** *прысл.* **1.** *Пытальнае.* **а).** *Адкуль, з якога месца?* Злѧкшесе начали пытати рекоуче. и ѡткол есть тот так моцный а такъ грозныи так ꙗсныи так свѣтлыи (Пак. Хр., 25б); рече к нему Дѣдъ ѡтколѣ идеши (Скар. ДЦ, 66б); Поднес есми очи мои в горꙋ, ѡткол пріидет помоч моѧ (Пс. XVI, 126); ѡтколе едешъ и до кого еси прышол, прыѧтелю (Бава, 130); кгды станул вѕ вечор перед елисеем, реклъ емꙋ, ѡтколꙗс пришол (Бельск., 125б); Пыталъ гордиꙗнъ ѡтколе естесь ты зацныѕ красомовцо (Пралог, 606б).

**б).** *Адкуль, з якой крыніцы, ад каго?* ѡ смоутнаꙗ матко ѡ жалостнаꙗ девко. ѡткол тобе пришла таꙗ жалость (Пак. Хр., 14б); ѡн реклъ: гсди боже, ѡтколе вѣдат могу же еи посꙗдꙋ (Біблія, 41); дариѕ реклъ: ѡтколь то вѣдаеш (Алекс., 13б); Ѡтколь ставаетсѧ имъ, же до Бга сѧ зближивши, самыхъ себе частѡкроть ѡтходити мꙋсѧтъ (Сматр., 24); Владза шатана над людми ѡтколѧ (Мак., 50). *Параўн.* одколе ў 1 *знач.*

**в).** *Чаму, з якой прычыны?* вошла до него Іезавель жона егѡ, и рекла емꙋ: што то есть; ѡтколе се засмꙋтила дꙋша твоѧ: а чомꙋ не ѣси хлѣба (Хран., 315).

**2.** *Адноснае. Адкуль-небудзь.* которыи люди выведены отколѣ неволно, или къ цѣлованью приведены, или за порукы подаваны ино ихъ отпустити доброволно (АЗР, I, 65, 1449).

**3.** *У знач. зл. сл. Адкуль, з якога месца.* **а).** *Ужываецца для падпарадкавання дададзеных азначальных сказаў.* хсъ оуведет ѡца твоего адама оу раи. ѡткол выкыноут есть (Пак. Хр., 28); естли бы валка с тое стороны была ѡтколь ѡн есть тогды маеть поставити двух члвков шлѧхтичовъ которые с тое стороны будуть ѡткол ѡнъ (Ст. 1529—Ф, 36—37); Зъ рѣки Недѣновы до озера вышейописаного Свѣтицка, отколь ся граница почала, въ того жъ ся озера и зкончила (РПП, 13, 1559); панъ депутатъ ... тые пѣнези ... въ томъ жо схованью, отколь возметъ, положити маетъ (АВК, III, 276, 1577); маеть ехати до ѡное земли або повету ѡтколѧ родомъ естъ (Ст. 1588, 449); пришол до ѡдного мѣстца ... ѡтколе церковъ и все мѣсто може ѡгледат (Алекс., 6); Потом Лешко ... звоевал земли рꙋские аж до Львова, ѡтколѧ з немалою користю вернꙋлсѧ до Полщи (Стрыйк., 612); Мешкане наше Бож: Апслъ Павелъ, на нбсехъ быти повѣдаетъ, ѡтколь и Збавителѧ чекаемо (Сматр., 44).

**б).** *Ужываецца для падпарадкавання дададзеных дапаўняльных сказаў.* оувѣдаи гораздъ. ѡтколѧ а чии есть снъ (Чэцця, 318); не вѣдаюче ѡткол пришли албо кде идоут пораноу оуставше оувидели змлю оу своих мѣстцех следми конскими стоптаноую (Валх., 48б); Билъ намъ чоломъ попъ Ѳедоръ ... о тое, што жъ не маеть собѣ, отколѣ ему дровъ прывести (РПП, 220, 1515); его же егда пытала есми кто бы былъ и ѡтколѣ ест и ꙗко имѧ его не хотелъ мнѣ поведити (Скар. КС, 30); чого довести коли помышлѣваю, а ни вѣдаю ѡтколь ѧ почати (Апакр., 171); пытал же аврам мелхиседека ѡ нароженю его, ꙗко и ѡтколе пришедши во ѡной горѣ мешкает (Біблія, 40); Саранча ... невѣдомо ѡтколъ пришедши всѣ збожъꙗ и ѡвоцы выела (Стрыйк., 465); Гды доросли лѣтъ, з повѣсти пастуховы зрозꙋмѣли ѡтколѧ были и чие сынове (Рым., 78).

**в).** *Ужываецца для падпарадкавання дададзеных сказаў месца.* бъ ... возышол тамъ гдѣж пѣрвѣи был. и вознеслъсѧ. ѡтколѣ жь. николи жь не разлѫчилсѧ (Чэцця, 209); Поневоли ѡпꙋщаю свѣтъ, и идꙋ звѧзаны ѡтколь вернꙋтисѧ не естъ реч можнаѧ (Кін., 53); ты естес плотный человѣкъ, поиди назад з миром, ѡтколѕ еси пріишолъ (Алекс. 1697, 61б). *Параўн.* одколе *ў 2 знач.*

**4.** *У знач. зл. сл. З-за чаго, дзякуючы чаму; з прычыны чаго; адкуль. Ужываецца для падпарадкавання дададзеных далучальных*

*сказаў.* за росказанъем нашымъ делу того пробоват не хотели и не допущали, откол значытсе не ровность делу (АВК, XXX, 33, 1589); межи тыми всѣми артикоулы ... былъ и то*т* помененый артикꙋлъ конфедерацiи, ѡ*т*колѧ сѧ значитъ котѡрые то были нѣкоторые што собѣ конфедерацiю покой в релѣи варовали (Апакр., 23б); всю живно*ст*, вытравили, в мѣсте и*ж* мꙋсили напото*м* люди лае*н*, и гною шꙋка*т* кꙋ ꙗденю, ѡ*т*колꙗ ве*л*ми и*х* мно*г* ѡ*т* голодꙋ поме*р*ло (Бельск., 230); бирита ... была бого*м* свои*м* ... пошлюбила хова*т* чисто*ст* а*ж* до сме*р*ти, ѡ*т*колꙗ те*ж* сама была хвалена ѡ*т* люде[s] простих за богиню (Стрыйк., 544б—545). *Параўн.* одколе *ў* 3 *знач.*

**5.** *У знач. зл. сл. З якой крыніцы, ад каго, адкуль. Ужываецца для падпарадкавання даданых дапаўняльных сказаў.* сами не ведаемъ, отколѣ пожаръ пришолъ (АВК, XVII, 170, 1540); Дивился, отколь кн҃зю Дмитрею помочь и смѣлость повстати на Мамая и на нас двох кн҃зей (Мам., 177); По*д*носи*л* есми ѡчи мои на гори ѡ*т*колꙗ бы ми пришо*л* ратꙋнокъ (Пс. XVII, 14б).

**Откольиноль, отколяиноля** *прысл. Тое, што і* откульинудъ. То наконецъ ѡнымъ вароуемо, абы жаденъ иный обчій чл҃къ опрочъ который ѡ*т* насъ на то обранъ и потвержо*н* боуде*т*, жадной собѣ ѡ*т*колѧинолѧ зверхности на*д* ними не привлаща*л* (Апакр., 38); Тымъ самымъ дается знати, же ваша наука слаба, и мусите отколь-иноль на нее ся здобывати, а звлаща отъ вызнавцовъ костела Римского (Пыт., 105).

**Отколькольвекъ** *прысл. Тое, што і* откулькoлвекъ *у* 1 *знач.* хто жъ бы кольвекъ таковые товары лесные, складаючы ся съ купъцами, робилъ ... альбо оные жъ товары отъколь кольвекъ на перекупъ скуповалъ (КПД, 175, 1551); абы жидове, отколь кол[ь]векъ прiеждчаючи, инъде въ месте Виленскомъ противъ привильевъ вашихъ местскихъ обецного мешканья не мели, гандлевъ и торгованья не чинили, окромъ ярмарковыхъ часовъ (Там жа, 516, 1568); кгды бы братьѧ неделные маючи лета дорослые ѡного в ыменью зоставили, и ѡномꙋ именье свое въ справꙋ его до зверънен*ѧ* своего ѡ*т*коль кольвекъ порꙋчили (Ст. 1588, 299); сщ҃енниковъ бл҃гоꙋго*д*ныхъ че*ст*ныхъ православны*х* неко*р*чемны*х* ѡ*т*ко*л* же ко*л*ве*к* се и*м* потрафи*т* могли собѣ избиратъ [!] (Дыяр., 154).

**Отколя** *гл.* отколе

**Отколяиноля** *гл.* откольиноль

**Откопаный** *дзеепрым. ад* откопати *ў* 1 *знач.* откопано тело и оледали христiяне, знаковъ глядечи, ежели бы не была отъ жыдовъ замордована (ИЮМ, IX, 374, 1639).

**Откопати** *дзеясл.* **1.** *Адкапаць, выкапаць, капаючы, дастаць што-н. з-пад чаго-н.* архиепископъ росказалъ свещеннику Рожественскому и челяди дьякомъ своимъ тое тѣло откопать (АСД, I, 263, 1621); казали тело тое невесты откопать (ИЮМ, IX, 373, 1639). *Параўн.* одкопати.

**2.** *Капаючы, адкідаць што-н. ад чаго-н.* таковыˢ ꙋкрывжоныˢ ... маеть того суседа ... напоменуть, абы воды знижылъ и греблю новоприсыпанꙋю ѿ чꙋжого берега ѿкопалъ (Ст. 1588, 368).

**3.** *Раскапаць, капаючы, зрабіць або пашырыць аддтуліну, яму і інш.* братıа пришедщи ѿкопали мѣстце тѣсное переходить до него, и взıали его, розꙋмѣючи за ꙋмерлого и вынесли передъ печерꙋ (Пралог, 626).

**Откопованый** *дзеепрым. ад* откоповати. то вызналъ Гришко Анъдреевичъ, сынъ змерлое невесты, же откопована и не такъ, якъ было отъ насъ дошкою заложона (ИЮМ, IX, 374, 1639).

**Откоповати** *дзеясл. Адкопваць, выкопваць, капаючы, даставаць што-н. з-пад чаго-н.* Повѣсть, ѡ злодѣю гробном, которыˢ ѿкоповаючы гробы знималъ зъ ꙋмерлыхъ шаты (Зб. 752, 570б); в тоˢ же часъ был нѣıакиˢ гробныˢ злодеˢ которіˢ гробы ѿкоповавъши здыймовалъ з умерлыхъ шаты (Зб. 82, 426б). *Параўн.* одкопывати.

**Откормити** *дзеясл. Выкарміць, кормячы, выгадаваць.* она же ѿкормить тобѣ ѿроча сее (Скар. КВ, 6б); ѿкормлю отроча и поведу его сˢ собою (Скар. ПЦ, 6б).

**Откосъ** *наз. Адкос, нахільная паверхня чаго-н.* заплатили Шваре и товары[шо]мъ его ... въ млыну откосъ отсыпали (ИЮМ, III, 215, 1685).

**Откочевати** *дзеясл. Адкочваць, коцячы, перамяшчаць у іншае месца.* Гды гармату откочевали, майстру Петроку и помочнику Юрку купили пива (ИЮМ, X, 147, 1695).

**Откраденый** *дзеепрым. ад* открасти. которые дей вжо недавно отъ него открадены, панъ Богушъ Таруса того человека своего взявши (АВК, XVII, 372, 1541).

**Открасти** *дзеясл. Адкрасці, украсці тое, што было адабрана.* мя сестра его Марина Пекарцовая открала и, тутъ до Городна привезши, тому Войтеху продала (АВК, XVII, 10, 1539); жидъ сегодня водлугъ сказанья пана Симонова присягнулъ на томъ, ижъ того листа своего запи[с]ного въ Пилипа не укралъ (Там жа, 189, 1540).

**Откреати** *дзеясл. Тое, што і* окреяти. ѡни пакъ повѣдахꙋ емꙋ порѧдꙋ все еже сѧ деıало. И внегда ꙋзрелˢ возы и всѧ еже былъ прислалъ, ѿкреалъ духъ его (Скар. КБ, 84б).

